4 ліпеня 2014 | № 26 (395)

# Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144



**4 ЯК Я СУДЗІЎСЯ З АДМІНІСТРАЦЫЯЙ**

Сучасны аўтарытарызм не мае патрэбы ў масавай падтрымцы. Дзеля самазахавання яму цалкам хапае масавай пасіўнасці

**6 ТВОРЧАСЦЬ – ПРАКТЫКАВАННІ Ў СВАБОДЗЕ**



9 ліпеня — дзень народзінаў Уладзіміра Някляева. З паэтам і палітыкам размаўляе Сяргей Шапран

**13 НАПЕРАД У 1914-Ы**

Сто гадоў таму, 28 чэрвеня 1914 года, у Сараева сербскімі тэрарыстамі быў забіты прынц Франц-Фердынанд. Сёння прэса знаходзіць шмат паралеляў паміж тымі падзеямі і цяперашнім украінскім крызісам

**14 ЛІКВІДАЦЫЯ «ЛІКВІДАЦЫІ» ВАСІЛЯ БЫКАВА**



Хрэстаматыйны «Сотнікаў» упершыню надрукаваны пад сваёй сапраўднай назвай — «Ліквідацыя»

# Пагроза незалежнасці

**На афіцыйны Дзень незалежнасці 3 ліпеня мы дэманструем усяму свету сваю моц і «ненахіляльнасць», але галоўная праблема незалежнасці — у нас у галовах.**



Сяргей ПУЛЬША

Адкуль увогуле сыходзіць уяўленне пра пагрозу беларускай незалежнасці? Шмат хто кажа, што гэта, найперш, вонкавы выклікі. Прынамсі, уладная прапаганда нас завярае, што нам патрэбныя «адэкватныя адказы пашырэнню NATO на Усход», і таму мы штогод бразгаем зброяй на афіцыйных парадах. Каб паказаць гэтаму агрэсіўнаму Захаду, што браня моцная, а танкі хуткія.

Не менш актыўна з боку нацыянальна арыентаванай апазіцыі нас упэўніваюць, што пагроза, наадварот, сыходзіць з «імперскай алігархічнай Расіі». Маўляў, мы ў поўнай залежнасці ад расійскага капіталу, а таму і дазваляем будаваць тут вайсковую часціну гэтай залежнасці, напрыклад, ствараць расійскія авіяцыйныя базы. Дый нашая пазіцыя на міжнароднай арэне — гэта падтрымка Расіі за ейныя грошы.

Між тым, беларусы ўпэўнена хочуць жыць у сваёй дзяржаве. Паводле вынікаў чэрвеньскага апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва), калі б адбываўся б рэферэндум аб аб'яднанні Беларусі і Расіі, за такі варыянт прагаласавала б 24,8%, супраць — 54,8% рэспандэнтаў. А калі б давялося абіраць паміж уступленнем у ЕС альбо ў Расію, за Расію прагаласавала б менш палövы насельніцтва — 46,9%, а за Еўрасаюз — 33,1%. То бок, насамрэч, насельніцтву не трэба ані ЕС з ягонай «звышталерантнасцю», ані Расія з яе імперскімі замашкамі. Варта зазначыць, што каля 20% беларусаў у вызначаных пытаннях увогуле не маюць нейкага меркавання.

Дарэчы, і «знешніх ворагаў» беларусы не бачаць. На пытанне «Ці ёсць у нашага народа, у нашай краіны ворагі?», толькі 12,8% адказалі, што «наша краіна акружана ворагамі з усіх бакоў», а амаль 30% лічаць, што «самыя небяспечныя нашы ворагі — схаваныя, унутраныя».

Мы спадзяемся на сяброўства з усімі, як баланс. Калі Расія раптам захоча «праглынуць» Беларусь, то ёй не дасць гэта зрабіць Захад. Калі ж агрэсарам выступіць «пачварнае NATO», то ў нас ёсць АДКБ і Саюзная дзяржава. І на гэтых геапалітычных арэлях балансуе маленькі, у параўнанні з суседнімі «монстрамі», «крыштальны сасуд».

> **За аб'яднанне Беларусі і Расіі прагаласавала б 24,8%, супраць — 54,8%**

Разумныя людзі павінны вучыцца на памылках іншых. І вось, гледзячы на поўдзень, мы атрымліваем — з незалежнасцю ў нас не ўсё ў парадку, як гэта было ва Украіне.

Што дало падставы спадару Пуціну распачаць вайсковую аперацыю супраць нашай суседкі і захапіць Крым? Тэза пра тое, што там «рускамоўных прыгнятаюць» і ледзьве не расстрэльваюць баевікі-нацысты з «Правага сектару». Пасля ўкраінскіх падзеяў у інтэрнэце нават з'явіліся малюнкі: «Цішэй размаўляйце па-руску, а то Пуцін дашле танкі вас абараняць». Між тым, пераважная колькасць беларусаў працягвае размаўляць рускаю моваю, і няшмат хто карыстаецца беларускай. Таму Расія разглядае «сінявокую» як сваю «вотчыну» і, адпаведна, можа пайсці і на тое, каб «абараніць рускамоўных», якія аб сваёй абароне не прасілі.




Так што моўны чыннік — гэта, як паказалі ўкраінскія падзеі, адзін з галоўных чыннікаў незалежнасці і суверэнітэту. Тое, што беларусы не карыстаюцца сваёй мовай — не «вонкавая пагроза незалежнасці», а выключна ўнутраная.

Чаму Расія лёгка захапіла Крым, стварыла «ачагі напружанасці» ў Данецку і Луганску, але не здолела «расхістаць сітуацыю» ані ў Харкаве, ані ў Адэсе, ані ў іншых рэгіёнах?

Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, што «Данбас корміць усю Украіну», Данецк і Луганск — самыя занядбаныя ўкраінскія тэрыторыі. Доля Данецкай вобласці ў ВУП Украіны ў 2010 годзе склала 12%, а агульная сума атрыманых гэтым рэгіёнам субсідый, бягучых і капітальных трансфертаў склала ў 2010 годзе — 21%, а ў 2011 годзе — 27% ад агульнадзяржаўнай сумы. Аналагічная сітуацыя ў Луганскай вобласці — пры долі ў ВУП Украіны ў памеры 4%, выдаткі па вобласці склалі 8% (2010) і 11% (2011).

А гэта значыць, што ў «праблемных» рэгіёнах у людзей не было працоўных месцаў, не было магчымасці сабе зарабіць. І таму спадзяванкі былі на тых, «хто больш заплаціць». А вось у Днепрапятроўскай вобласці «руская вясна» скончылася, не паспеўшы пачацца. Таму што там сітуацыя іншая — пры долі рэгіёна ў ВУП Украіны ў 11%, вобласць атрымала толькі 2% субсідыяў і трансфертаў у 2010 годзе і 3,8% — у 2011-м.

Чым лепш людзі жывуць, чым больш у іх магчымасцяў зарабіць, тым больш моцная дзяржава. Моцная эканоміка — гэта адна з найгрунтоўнейшых падставаў незалежнасці. І менавіта з гэтым «выклікам незалежнасці» ў Беларусі існуюць праблемы. Зноў-такі, гэтая пагроза не вонкавая, а чыста ўнутраная.

На што «купіўся» Крым? На тое, што іхнія пенсіі, дапамогі і заробкі паабяцалі прыраўняць да расійскіх. Зараз у нас каля мільёну беларусаў стала ці часова працуюць у Расіі, бо там вышэйшыя заробкі. І ад гэтага складаецца ўражанне, што ў Расіі — лепей. А калі лепей, чаму б да яе не прыяднацца, бо незалежнасць у кішэні не памацаеш. Вось пагроза незалежнасці і намалявалася...

Так што збольшага пагрозы беларускай незалежнасці — гэта нашыя эканамічныя, сацыяльныя і культурныя праблемы. Выключна нашыя, а не нейкіх «патаемных ворагаў» з Захаду ці Усходу. Парадамі гэтыя праблемы не вырашыш, а значыць — трэба згортваць гэтыя парады і пусціць грошы на штосьці больш карыснае.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. ІП страйкуюць

**Каля 300 індывідуальных прадпрымальнікаў Цэнтральнага гарадскога рынка 1 ліпеня распачалі калектыўны страйк, каб выказаць сваю нязгоду з указам прэзідэнта № 222.**

Нефармальны лідар мясцовых ІП Мікалай Чарнавус распавёў пра вынікі Форума прадпрымальнікаў 30 чэрвеня ў Мінску. Затым людзі арганізавана рушылі з цэнтральнага каапрынку на сустрэчу з кіраўніцтвам горада, дзе да іх далучыліся прадпрымальнікі з Палескага рынку. Пэўны час яны стаялі ў фае будынка і чакалі прадстаўнікоў улады. Затым прадпрымальнікі занялі вялікую залу гарвыканкама, але ніхто з мясцовых чыноўнікаў не адважыўся выйсці з імі на сустрэчу, каб супольна пагаварыць пра набалелыя праблемы.

Усе выступоўцы адзначалі, што ўказ, паводле якога прадпрымальнікі абавязаны мець сертыфікаты на ўвезены тавар, паставіць малы бізнэс на калені, таму трэба аб'ядноўвацца і бараніць свае правы.

Удзельнікі сходу вырашылі: калі гарадская адміністрацыя іх слухаць не хоча, то трэба ехаць у Мінск. Але большасць баранавіцкіх «ІПэшнікаў» вырашыла пайсці ў гарадскі цэнтр занятасці, каб зарэгістравацца беспрацоўнымі.

### МАГІЛЁЎ. Запланаваны экалагічны пікет

**Актывісты аргкамітэта БХД плануюць правесці 8 ліпеня пікет «За чысціню паветра».**

Адпаведную заяўку яны накіравалі ў гарвыканкам.

Лідар Магілёўскіх хрысціянскіх дэмакратаў Алег Аксёнаў кажа, што нагодай для правядзення пікета стала неабходнасць звярнуць увагу чыноўнікаў на экалагічны стан горада.

«Былы гігант «Магілёўхімвалакно» нясе небяспеку, бо сам камбінат заканчвае сваё існаванне, а ў яго карпусах узнікаюць прыватныя прадпрыемствы з небяспечнымі выкідамі. Таксама ёсць звесткі, што пачынаецца будаўніцтва новага хімічнага прадпрыемства па кітайскай тэхналогіі. На фоне скарачэння фінансавання медыцыны — гэта небяспека для ўсіх жыхароў, таму мы і вырашылі правесці пікет, каб прыцягнуць увагу да экалогіі горада, — сказаў Аксёнаў.

### БЯРОЗА. Дэпутатам не выдалі пасведчанні

**Валерый Білібуха — адзіны з дэмакратычных актывістаў, што здолеў стаць дэпутатам мясцовага савету.**

Актывіст БХД балатаваўся па Жычынскай акрузе ў Першамайскі сельсавет Бярозаўскага раёна і атрымаў перамогу як на датэрміновым галасаванні, так і ў асноўны дзень.

Нягледзячы на тое, што з моманту выбараў прайшло ўжо больш за тры месяцы, і сельсавет рэгулярна збіраецца на свае паседжанні, ні Білібуха, ні іншыя дэпутаты Першамайскага сельсавета дагэтуль не атрымалі дакументаў, якія б сведчылі, што яны з'яўляюцца народнымі абраннікамі.

### ЛІДА. Ціск на актывістаў працягваецца

**На грамадскіх актывістаў Лідскага раёна ідзе ціск з боку раённых дзяржаўных службаў.**

Яшчэ 5 траўня судом Лідскага раёна ўдзельнікі ўшанавання памяці беларускіх дзеячаў у Дзень Волі Сяргей Трафімчык, Вітольд Ашурак, Мурат Мусаеў, Сяргей Сідарэнка і Юры Дзяшук былі аштрафаваныя на 5 базавых велічынь. Аднак бальшыня асуджаных так і не атрымалі ні пастановы суду, ні банкаўскага рахунку, на які трэба плаціць штраф.

Толькі Сяргею Трафімчыку 26 чэрвеня прыйшлі банкаўскія рэквізіты разам з пастановай судовага выканаўцы. «На маю думку, у гэтым выпадку відавочна альбо невыкананне супрацоўнікамі суда сваіх абавязкаў, і тады гэта звычайная халатнасць, альбо гэта зроблена наўмысна, каб мы не паспелі ў час заплаціць штрафы, і пад выглядам «судовых выканаўцаў» пабываць у кватэрах актывістаў, правесці дагляд маёмасці, штосьці знайсці. Можа, маё такое меркаванне і выглядае смешным, але ж мы не ведаем, дзе ў «іх» мяжа маразму і на што здольнае хворае ўяўленне якогасьці мясцовага начальнічка спецслужбаў... У любым выпадку, відавочнае невыкананне і парушэнне заканадаўства», — тлумачыць Сяргей Трафімчык.

**Паводле сайта spring96.org**

# Ананіч сітуацыю не палепшыць

Генадзь КЕСНЕР

**30 чэрвеня Лілія Ананіч пазбавілася прыстаўкі в.а. і стала міністрам інфармацыі.**

Па словах намесніка старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) юрыста Андрэя Бастунца, Лідзія Ананіч з'яўляецца адным са старажылаў у беларускай сістэме ўлады, а менавіта, у сістэме міністэрства па інфармацыі, бо гэтае ведамства за шмат гадоў неаднаразова мяняла сваю назву. Ананіч прыйшла ў гэтую сістэму ў 1992 годзе, яшчэ да таго, як Аляксандр Лукашэнка ачоліў краіну.

У 2001 годзе яна стала намеснікам, а пазней — першым намеснікам міністра інфармацыі. «Міністры прыходзілі і сыходзілі, а вось Лілія Ананіч заставалася на сваёй кіроўнай пасадзе і паступова наблізілася да найвышэйшай пасады ў міністэрстве», — канстатуе Бастунец. Таму юрыст не мяркуе, што пасля таго, як Ананіч стала ў на чале Мінінфарма, яе стаўленне да незалежных журналістаў і недзяржаўных СМІ неяк зменіцца.

Што тычыцца Ліліі Ананіч як чыноўніцы, то, на думку Бастунца, яна адпавядае ўсім задачам, якія службоўцам такога рангу выстаўляе цяперашняя дзяржава, і свае абавязкі яна будзе выконваць так, як ад яе гэтага запатрабуюць.

Ад персанальна самой Ананіч не будзе залежаць палёгка ці пагаршэнне становішча незалежных СМІ і журналістаў, мяркуе намеснік старшыні БАЖ. «Гэта залежыць ад таго, якія задачы ставяцца перад такім чыноўнікам больш высокім кіраўніцтвам. І ў тым, што гэтыя задачы будуць выконвацца, у мяне няма сумневу. А вось у тым, што гэтыя задачы будуць больш дэмакратычнага ці ліберальнага парадку, я сумняваюся. Хаця, хто яго ведае», — падсумаваў Андрэй Бастунец.

Ананіч пад нумарам 110 знаходзіцца ў «чорным спісе» беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю Еўрапейскага саюза. У час яе дзейнасці ў Мінінфарме з падпісных каталогаў «Белпошты» і кіёскаў «Белсаюздрука» былі выдалены незалежныя друкаваныя выданні. Апроч таго, Лілія Ананіч уласнаручна падпісвала афіцыйныя папярэджанні «Новаму Часу», часопісу «Arche», баранавіцкай газеце «Intex-press» ды іншым. Мінулым вераснем Ананіч падпісала дакумент пра спыненне працы выдавецтва «Логвінаў» за прадукаванне альбома «Прэс-фота Беларусі–2011».

Лілія Ананіч (Яцэвіч) нарадзілася ў 1960 годзе. У 1982 годзе скончыла факультэт журналістыкі БДУ, а ў 2000-м — Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Узнагароджана дзвюма ганаровымі граматамі Савета Міністраў.

# Дапаможам Рыгору Кійко

**Марафон салідарнасці з 53-гадовым мастаком Рыгорам Кійко стартаваў 2 ліпеня ў сядзібе Управы БНФ.**

Аднаму з першых беларускіх палітвязняў патрабуецца тэрміновая хіміятэрапія і аперацыя. Грошы можна пералічваць на рахункі вэбмані: B315667362087 (беларускія рублі), R171083234228 (расійскія рублі), Z265654535343 (долары), E207490272649 (еўра). Можна перадаць і праз валантораў: +375 44 534-91-13 (Юлія), +375 29 275-32-12 (Таццяна), +375 44 771-98-17 (Марына).

Першы раз Рыгор Кійко быў зняволены ўвесну 1996 года. Яго затрымалі праз некалькі дзён пасля Чарнобыльскага шляху падчас пікета ў падтрымку затрыманых на акцыі ўкраінцаў. Пікет быў жорстка разагнаны. Рыгор Кійко атрымаў цялесныя пашкоджанні. Яго асудзілі на 8 сутак.

23 сакавіка 1997 года Рыгора Кійко затрымалі падчас святкавання Дня Волі, абвінавацілі ў хуліганстве і тры месяцы трымалі ў турме на Валадарскага. У выніку ён атрымаў два гады «хіміі».

У 2001 годзе Рыгор Кійко ўдзельнічаў у акцыях па абароне Курапатаў супраць пашырэння Мінскай кальцавой дарогі. 8 лістапада падчас нападу спецназаўцаў на лагер абаронцаў Курапатаў Рыгор Кійко быў моцна збіты.

**Паводле svaboda.org**

# ТБМ на ахове мовы

Марат ГАРАВЫ

**Напрыканцы чэрвеня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўрачыста адзначыла сваё 25-годдзе.**

Святкаванне адбылося пры вялікай увазе грамадства, асабліва моладзі. За апошнія чвэрць стагоддзя пад знакам ТБМ вырасла тая частка маладога пакалення, якая прадстаўляе грамадзянскую супольнасць, што дае надзею на здзяйсненне мэты таварыства — забяспечыць рэальны дзяржаўны статус мове карэннага этнасу Беларусі.

У сваім віншаванні юбілярам першы старшыня ТБМ, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч пажадаў сябрам таварыства ні на хвіліну не паддавацца намаганню ворагаў беларушчыны падрыць карані веры ў роднае слова, любові да роднага слова, абараняць яго правы на жыццё, яго гонар і годнасць.

Сакратарыят ТБМ прыняў зварот да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу «Аб вяртанні беларускай мовы ў беларускае заканадаўства», у якім прапанавана з 1 верасня 2014 года ўсе законы і падзаконныя акты адразу прымаць на дзвюх дзяржаўных мовах, а таксама зрабіць афіцыйны пераклад папярэдніх законаў, якія былі прынятыя толькі на рускай мове, на дзяржаўную беларускую мову і змясціць іх на адпаведных сайтах.

Сярод галоўных здабыткаў таварыства за чвэрць стагоддзя старшыня аб'яднання Алег Трусаў і яго першы намеснік Алена Анісім назвалі тое, што мова пашыраецца ў грамадстве, у аб'яднанне прыходзіць моладзь, якая сама пачынае прасоўваць беларускую мову ва ўсе сферы жыцця.

За перыяд існавання ТБМ беларуская мова вельмі ўмацавалася ў неспрыяльных умовах і паказала ўсяму свету сваю трываласць і здольнасць да развіцця нават пры дзяржаўным уціску. Гэтаму спрыяюць і партнёры таварыства — кампанія «Будзьма беларусамі» і «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».

Кіраўніцтва ТБМ лічыць вельмі важным, што беларуская мова прысутнічае ў геаграфічных назвах, грамадскім транспарце і на шыльдах, зацаваная лацінкай, набывае статус элітарнай, пра што сведчыць з'яўленне шматлікіх курсаў па яе вывучэнню. Справа папулярызацыі беларускай мовы знаходзіць усё большую падтрымку ў грамадстве. Падзеі ва Украіне дадалі матчынай мове аўтарытэту — нават Аляксандр Лукашэнка заявіў, што без беларускай мовы не будзе нацыі.

Зараз таварыства вядзе падрыхтоўку Міжнароднага сертыфіката беларускай мовы паводле рэкамендацый Савету Еўропы, які дазволіць зрабіць беларускую мову даступнай любому замежніку.

ТБМ — зарэгістраваная добраахвотная непалітычная арганізацыя, у якой аб'ядналіся прадстаўнікі беларускай нацыянальнай эліты. З 1989 па 1997 гады арганізацыяй кіраваў Ніл Гілевіч, з 1997 па 1999 гады — паэт і грамадска-палітычны дзеяч Генадзь Бураўкін, а з 1999 года — гісторык і грамадска-палітычны дзеяч Алег Трусаў.

ТБМ — агульнабеларуская арганізацыя, якая налічвае каля 6 тысяч сяброў. Сёння структуры таварыства дзейнічаюць у 75 рэгіёнах краіны са 118. Сябрамі ТБМ таксама з'яўляюцца жыхары шэрагу гарадоў Расіі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Чэхіі і Украіны.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як становяцца здраднікамі?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ва ўладных колах Беларусі адна рука не ведае, што робіць іншая. Гэтая дэвіяцыя апронарухальнага апарату непазбежна адбіваецца на галаве. З аднаго боку, мы хочам моцнай эканомікі, з іншага — робім усё, каб такой эканомікі не было.**




Аляксандр Рыгоравіч, віншуючы краіну з Днём вызвалення Мінска, слушна заўважыў: эканоміка — галоўны гарант і галоўная небяспека нашай незалежнасці, а таму кожны павінен рабіць унёсак ва ўмацаванне краіны. «Так, плаціць падаткі — гэта абавязак. Многія лічаць яго павіннасцю, ад якой хочацца любымі спосабамі пазбавіцца», — заявіў Лукашэнка ў Мінску ў аўторак.

«Але ж падаткі — гэта не толькі эканамічная катэгорыя, гэта катэгорыя палітычная, і калі хочаце — маральная, — адзначыў ён. — Гэта канкрэтны ўнёсак грамадзяніна ў будаўніцтва нашага агульнага дома — Беларусі, у яе спакой і бяспеку, у адукацыю і здароўе нацыі, у камфорт і прыгажосць нашых гарадоў і вёсак». «І імкненне любымі спосабамі ўхіліцца ад гэтага ўнёску — гэта свайго роду маральная здрада Радзіме», — перакананы кіраўнік дзяржавы.

Аднак для таго, каб плаціць падаткі, трэба, каб было з чаго іх плаціць. А беларускі ўрад робіць усё, каб для сплаты падатку ў даволі вялікай колькасці грамадзянаў не было ніякай магчымасці.

З 1 ліпеня індывідуальныя прадпрымальнікі — плацельшчыкі адзінага падатку павінны мець на тавар суправаджальныя дакументы, атрымаць якія немагчыма. З гэтай нароты частка ІПшнікаў спыніла працу ў Баранавічах, Віцебску, Гомелі, Магілёве, Гродне, Слоніме, Рагачове і іншых малых гарадах. Людзі не выйшлі на свае працоўныя месцы і падалі нулявыя дэкларацыі, гэта значыць, не заплацілі падаткі.

ІПшнікі зараз абавязаныя мець суправаджальныя дакументы на тавар, у тым ліку і на завезеныя з краін Мытнага саюза. Акрамя таго, 1 ліпеня заканчваецца тэрмін дзеяння для ІП «ільгот» па выкананні патрабавання тэхрэгламенту Мытнага саюза аб бяспецы тавараў лёгкай прамысловасці. Раней ІП неаднаразова заяўлялі, што не могуць атрымаць ад сваіх пастаўшчыкоў у Мытным саюзе (у асноўным прадпрымальнікі закупляюць тавар на маскоўскіх аптовых рынках) ні дакументаў аб адпаведнасці тавараў лёгкай прамысловасці патрабаванням тэхрэгламенту МС, ні суправаджальных дакументаў, — іх там проста не існуе. З-за новаўвядзенняў, паводле розных ацэнак, могуць зачыніцца ад 15% да 80% прадпрымальнікаў.

Пры гэтым ІП не бачаць магчымасць пераарыентавацца ні на закупкі ўнутры Беларусі, ні на ўвоз тавару з «трэціх краін». Аптовыя базы, «беларускі Чэркізон», які даручаў стварыць Лукашэнка, так і не створаны.

Колькі падаткаў не трапіць у бюджэт? Колькі людзей стануць «маральнымі здраднікамі Радзіме»? Пытанне адкрытае.

Цікава атрымліваецца і з гатэлямі, якія мы набудавалі ў Мінску на час правядзення Чэмпіянату свету па хакеі. Зараз яны стаяць напаўпустыя. Каб іх запоўніць, улады Мінска маюць намер забараніць здачу кватэр на суткі. «Прадастаўленне месцаў для кароткатэрміновага пражывання — гэта від дзейнасці, які зжыў сябе, улічваючы колькасць гасцініц у горадзе», — назваў галоўную прычыну начальнік ІМПЗ па Мінску Уладзімір Лайкоў. Таму інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах будзе выходзіць з прапановай аб спыненні ў Мінску такога віду дзейнасці, як здача кватэры на суткі. Між тым, на ўліку ў падатковых органах Мінска зарэгістраваны 700 ІП, якія займаюцца пасутачнай здачай кватэр.

Таксама цікава, што ўлады нарэшце заняліся «мікрафінкамі», кшталту «грошай да заробку», якія фактычна падманвалі сваіх кліентаў, выстаўляючы нібыта мізэрныя працэнтныя стаўкі па займу грошай. Але, калі пералічыць гэтыя тыднёвыя працэнты ў гадавыя, атрымлівалася, што людзі бралі грошы пад 700–1000% гадавых. З 1 студзеня 2015 года ўводзіцца забарона на мікразаймы для фізічных асоб, якія прадстаўляюцца ў мікрафінансавых арганізацыях. Адпаведны ўказ падпісаны 30 чэрвеня.

З 2015 года пазыкі (мікракрэдыты) для фізічных асоб на спажывецкія мэты змогуць прадастаўляць толькі ламбарды, і выключна пад заклад рухомай маёмасці, прызначанай для асабістага, сямейнага або хатняга выкарыстання. Пры гэтым, у адпаведнасці з Грамадзянскім кодэксам, нават пры недастатковасці грашовых сродкаў, вырučаных ад продажу закладу, абавязацельствы пазычальніка перад ламбардаў будуць лічыцца выкананымі.

Астатнія мікразаймы могуць прадастаўляцца толькі на мэты развіцця прадпрымальніцкай дзейнасці і толькі асобам, якія з'яўляюцца заснавальнікамі (удзельнікамі) камерцыйных арганізацый, рамеснікам, асобам, якія вядуць асабістую падсобную гаспадарку, а таксама суб'ектам аграэкатурызму, малога і сярэдняга прадпрымальніцтва.

Наіўна будзе думаць, што ўсе пералічаныя катэгорыі пакуль што яшчэ бізнэсоўцаў кінуць сваю дзейнасць і пойдуць шукаць працу на дзяржаўных прадпрыемствах. Хутчэй, яны знойдуць нейкія хітрыкі і сыдуць у «шэры сектар» эканомікі. А значыць, не будуць плаціць падаткі. Ну і хто вінаваты ў тым, што яны раптам стануць «здраднікамі»? Яны ці тыя, хто не даў ім працаваць?

Гэтыя страты бюджэту трэба нечым кампенсаваць. І яны кампенсуюцца — з 2 ліпеня, акурат перад святам, у Беларусі падаражэў алкаголь крэпасцю звыш 28%.

Лімітавая мінімальная адпускная цана (без ПДВ) на алкаголь моцнасцю 40% за 0,5 літра (з коштам спажывецкай тары) павялічана на 8,1% да Br40 тысяч. Пры гэтым раздробны кошт (з ПДВ) павялічаны на 17,8% да Br53 тысяч. Лімітавая мінімальная адпускная цана на імпартныя алкагольныя напоі крэпасцю 40%, якія рэалізуюцца на тэрыторыі Беларусі (без ПДВ), складзе Br80 тысяч (на 8,1% больш).

Таксама мінімальная адпускная цана на спірт-сырэц з харчовай сыравіны павышаецца на 14,3% да Br120 тысяч за 1 дэкалітр бязводнага спірту, мінімальная адпускная цана на спірт этылавы рэктыфікаваны з нулявой стаўкай акцызу складзе Br160 тысяч (на 14,2% больш).

Але ці хопіць нам грошай з алкаголю, каб кампенсаваць усе страты з нявыплаты падаткаў прадпрымальнікамі? Хіба што толькі тады, калі ўсе гэтыя ІПшнікі зап'юць з гора...

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Уладзімір Макей



**Міністр замежных справаў Беларусі прыраўнаваў палітвязняў да сэксменшасцяў. Ён заявіў, што нават калі ў Беларусі не будзе палітвязняў, Захад прыдумае новыя падставы для прэтэнзій.**

«Мы рэальна глядзім на сітуацыю, і мы ведаем, што нават калі б мы вызвалілі тых, каго яны называюць «палітычнымі зняволенымі», то да Беларусі заўтра будуць прад'яўленыя новыя прэтэнзіі. Напрыклад, чаму ў Беларусі не рэгіструюцца аднаполыя шлюбы. Нам выказалі б прэтэнзіі, што ў нас дзеці называюць бацькоў «мама» і «тата», а не як неабходна там: «бацька №1» і «бацька №2», — заявіў Уладзімір Макей у інтэрв'ю праграме «Галоўны эфір» тэлеканала «Беларусь 1».

Не можа не радаваць тое, што Макей прызнае: праблема раўнапраўя ЛГБТ-супольнасці з'яўляецца настолькі ж важнай, як і праблема палітвязняў. З іншага боку, сапраўды, што за «бацька №2»? Нават за мяжой амаль кожны ведае, што Бацька ў Беларусі адзін!

## Ігар Аліневіч



**Кніга палітвязня Ігара Аліневіча «Еду ў Магадан» выйшла яшчэ на чатырох еўрапейскіх мовах — нямецкай, французскай, англійскай і іспанскай.**

Ужо цяпер на паліцах кніжных крамаў Іспаніі, Францыі, Англіі і Германіі можна знайсці копію кнігі на роднай для жыхароў краіны мове. Нягледзячы на тое, што падзеі, апісаныя ў кнізе, адбыліся ўжо больш за тры гады таму, замежныя тыражы карыстаюцца папулярнасцю. У першую чаргу, па той прычыне, што добра напісаная «жывою моваю» кніга апавядае пра беларускія рэаліі і беларускіх палітвязняў, а таксама пра катаванні ў беларускіх турмах, — факты, невядомыя шматлікім замежнікам.

Раней кніга была выдадзена на рускай мове, перакладзеная на беларускую, баскійскую, чэшскую і іншыя мовы. Кнігу на польскай мове планецца выдаць восенню.

28 лістапада 2010 года беларускага анархіста Ігара Аліневіча выкралі супрацоўнікі ФСБ, незаконна перавезлі праз расійска-беларускую мяжу і перадалі КДБ Беларусі. Яго абвінавацілі ў арганізацыі нападу на расійскае пасольства ў Мінску, што адбыўся ў жніўні таго ж года. Ігар сваёй віны не прызнаў. У 2011 годзе суд прысудзіў яго да 8 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму па абвінавачанні ва ўдзеле ў некалькіх акцыях негвалтоўнага супраціву, накіраваных супраць дзяржаўных структур.

Беларускія і міжнародныя праваабаронцы лічаць прысуд, вынесены Аліневічу, несправядлівым і неабгрунтаваным, і патрабуюць яго безумоўнага вызвалення і рэабілітацыі.

## Сяргей Міхалок



**Развітацца з «Ляпісам Трубяцкім» будзе лягчэй. Наведвальнікам канцэрту гурта ў Вільні дадуць бясплатныя візы.**

Канцэрт гурта "Ляпіс Трубяцкой" у рамках развітальнага тура «Клоўна няма — Happy End Tour» адбудзецца 23 жніўня ў Вільнюсе на адкрытай пляцоўцы клуба «Loftas». 1 верасня, як было заяўлена лідарам гурта Сяргеем Міхалком, «Ляпіс» спыніць сваё існаванне.

«Дзякуючы падтрымцы МЗС Літоўскай Рэспублікі, частка ўваходных білетаў на гэты канцэрт для беларусаў забяспечаная бясплатнымі візамі з тэрмінам знаходжання ў Літве з 22 па 24 жніўня ўключна», — паведамілі прадстаўнікі агенцтва «Шаблі», якое рэалізуе квіткі на канцэрт «Ляпіса Трубяцкога».

Падача дакументаў спрошчаная, то бок пацвярджэнне плацежаздольнасці не патрабуецца. Умовы продажу квіткоў: адзін квіток на адзін пашпарт. Калі няма візы, то для куплі квітка трэба папярэдне зарэгістравацца на падачу дакументаў у пасольстве Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі на даты з 28 ліпеня па 15 жніўня (электронны запіс на сайце амбасады) і раздрукаваць пацвярджэнне рэгістрацыі.

Варта зазначыць, што гэта ўжо звыклая практыка супрацоўніцтва «Ляпісаў» і Літоўскага пасольства. Пасольства выдавала бясплатныя візы для тых, хто ў 2012 і 2013 гадах наведваў канцэрты гурта ў Вільні, а таксама для наведвальнікаў музычных фэстаў «Be2gether» і «Galapagai», дзе таксама выступаў Міхалок.

Азбука паліталогіі

# Як я судзіўся з адміністрацыяй



Сяргей НІКАЛЮК

**Сучасны аўтарытарызм не мае патрэбы ў масавай падтрымцы. Дзеля самазахавання яму цалкам хапае масавай пасіўнасці.**

Згодна з артыкулам 9 Канстытуцыі, тэрыторыя Беларусі дзеліцца на вобласці, раёны, гарады і іншыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі. Да адной з такіх адзінак (N-ы раён) я і мая жонка Ліля маем асаблива цёплыя пачуцці. На яе тэрыторыі размешчаны дачны ўчастак маёй цешчы. Але справа не ў цешчы і не ў дачным участку. У N-ым раёне размешчаны N-ы раённы суд, у якім мы выйгралі справу ў N-ай раённай адміністрацыі.

Фармальна, спрэчка ішла з-за ўчастка зямлі плошчай 0,15 соткі ў садаводчым таварыстве (далей СТ). Нічога, акрамя судовых выдаткаў, працэс нам не абяцаў. Але, як любіць паўтараць адзіны палітык (АП): «Закон надо соблюдать». Хто б спрачаўся. Тым больш, што я цалкам падзяляю і яго разуменне справядлівасці, якая «выше закона или рядом с законом».

Але спачатку выкладу факты. Мой нябожчык цесць любіў ва ўсім парадак, таму ў 1999 годзе першым у СТ аформіў ва ўласнасць два зямельных участкі: асноўны і дадатковы (пад бульбу). Пасля яго смерці ў 2006 годзе ўчасткі ў спадчыну атрымала цешча. У 2010 годзе ў ходзе абавязковай прыватызацыі, і звязаным у сувязі з гэтым пераафармленнем дакументаў, цешча нечакана атрымала дзяржаўныя акты не на два ўчасткі, а толькі на адзін.

Зварот за растлумачэннем у раённую землеўпарадкавальную службу выявіў дзіўныя падрабязнасці. Права прыватнай уласнасці цешчы на дадатковы ўчастак было спынена на падставе трох дакументаў: яе ўласнай заявы, спісу чальцоў кааператыва, якія адмовіліся ад дадатковых участкаў за подпісам цесця ад 2002 года і яго асабістай заявы аб адмове ад дадатковага ўчастка ад 2002 года.

Зразумела, прыватная праблема маёй цешчы — гэта толькі падстава для чарговых азбукавых абагульненняў, нагода для пабудовы індуктыўных высноў (лагічных высноў на аснове пераходаў ад прыватных палажэнняў да агульнага).

## «У мяне там усё схоплена»

Вернемся да артыкула 9 Канстытуцыі, які апісвае структуру адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Беларусі. Жыццё ў гэтай прасторы зводзіцца да функцыянавання ў сістэме ўлады (паводле Сімона Кардонскага). Будзем у далейшым лічыць, што гэта сфармаваная высілкамі ўлады прастора існуе «ў рэальнасці».

Але «рэальнасцю» прасторавае жыццё не вычэрпваецца. Людзі і адносіны паміж імі ў акрэсленыя дзяржавай рамкі не змяшчаюцца. Таму яны фармуюць лакальныя прасторы прыватнага жыцця, у якіх імкнуцца схавацца ад усёвідушчага вока дзяржавы (СТ — тыповы прыклад самаарганізаванай лакальнай прасторы). У адрозненне ад «рэальнасці», гэтыя лакальныя прасторы існуюць «на самай справе».

Прасторавае жыццё «на самай справе» адбываецца — як гэта звычайна называюць спецыялісты па сярэднявечнай гісторыі — у маёнтках. Маёнткам становіцца частка «рэальнай» прасторы, аддзеленай ад яе мяжой любога кшталту, у тым ліку і плотам. Так, «вобласці, раёны, гарады і іншыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі» ўяўляюць сабой «на самай справе» маёнткі адпаведных кіраўнікоў адміністрацый.

Маёнткамі дырэктараў з'яўляюцца прамысловыя прадпрыемствы, незалежна ад формы ўласнасці. Гэты пералік можна лёгка працягнуць, уключыўшы ў яго медыцынскія і лячэбныя ўстановы і, як паказаў мой асабісты вопыт, СТ.

Маёнтка без памешчыка не бывае. Здавалася б, старшыню СТ выбіраюць на агульным сходзе. Якія тут могуць узнікнуць праблемы? Правы і абавязкі старшыні вызначаны статутам, яго дзейнасць падкантрольная рэвізійнай камісіі і агульнаму сходу чальцоў СТ. Усё гэта так. Але і АП мы выбіраем на «агульным сходзе», выбіраем на абмежаваны тэрмін, па заканчэнні якога маем магчымасць ухваліць або не ўхваліць яго справаздачу аб праведзенай працы.

Але ўсё гэта «ў рэальнасці». «На самай справе» старшыня СТ вольны прымаць любыя рашэнні, якія ў выпадку неабходнасці ён узаконьвае ў раённай землеўпарадкавальнай службе («У мяне там усё схоплена»). Для старшыні са стажам напісаць заяву ад імя маёй цешчы або распісацца замест майго цесця — не праблема. Капіяваць подпісы заяўнікаў не трэба. Шанец, што хтосьці запатрабуе графалагічную экспертызу, нікчэмна малы.

## Чалавек прыстасаваны да гвалту

Я не памылюся, калі буду разглядаць калектыў СТ у якасці мініяцюрнай копіі беларускага грамадства. Але што такое грамадства? Для заходняга сацыёлага — гэта сістэма ўстойлівых сувязяў, заснаваных на салідарнасці, узаемных каштоўнасцях і ўзаемных інтарэсах. За дваццаць два гады даследаванняў НІСЭПД выявіць у Беларусі такую супольнасць не атрымалася. Адсутнічае яна і на тэрыторыі СТ, адгароджанай ад астатняга свету сеткай-рабіцай. Дый як ёй паўстаць, калі тэрыторыя СТ, у сваю чаргу, падзеленая, высокімі платамі на лакальныя сямейныя светы?




Для заходняга сацыёлага паняцце «грамадства» пазбаўлена вымярэння ўлады. Гэта такое аб'яднанне, якое не прадугледжвае ўладных адносін. Але выведзіце нашага дачніка за межы асабістага ўчастка і пакіньце сам-насам з суайчыннікамі. Ён тут жа апынецца ў становішчы Панікоўскага, які, як вядома, баяўся вялікай колькасці сумленных людзей.

«Калі ў Еўропе або тым больш у Амерыцы, — адзначае дырэктар «Лявада-Цэнтра» Леў Гудкоў, — сістэма панавання (палітыка) стала толькі адной з падсістэм грамадства, то на большай частцы постсавецкай прасторы сістэма панавання па-ранейшаму суверэнная, прэтэндуе на ўсе большы кантроль над асноўнымі сферамі грамадства».

Меў рацыю Ленін, калі сцвярджаў, што сацыялізм — гэта ўлік і кантроль, плюс электрыфікацыя ўсёй краіны. Электрыфікацыя ў гэтай трыядзе, між іншым, з'яўляецца ключавым элементам кантролю, таму што той, хто манапалізаваў права ўключаць / выключаць рубільнік, аўтаматычна атрымлівае кантроль «над асноўнымі сферамі грамадства».

Але хто кантралюе кантралёра? Ніхто. Адпаведныя інстытуты адсутнічаюць. Спробы стварыць іх «зверху» рабіліся неаднаразова, але пара нязменна сыходзіла ў свісток. Як тут ні прыгадаць надзяленне Кацярынай II дваранскіх сходаў правам раз на год правяраць губернскі роспіс даходаў і выдаткаў. Ні адной згадкі пра канкрэтны выпадак такіх праверак гісторыкам у архівах так і не ўдалося адшукаць. Мяркую, з падобнай праблемай сутыкнуцца і будучыя гісторыкі, якія будуць вывучаюць прынцыпы кіравання СТ.

Але было б памылкай разглядаць тое, што мы звыкла называем «грамадствам», у якасці ахвяры кантролю з боку ўлады. Пазбаўленае ўнутраных сувязяў, заснаваных на салідарнасці, наша грамадства нагадвае мех з гарохам: варта толькі прыбраць мех (улада), як яно рассыплецца.

Такі тып грамадства рэплікуецца, нягледзячы на адкрытасць беларускай эканомікі і масавае асваенне інтэрнэту (паводле чэрвеньскага апытання НІСЭПД, інтэрнэтам карыстаюцца 60,7% беларусаў). Дзякуючы мэтанакіравана захаваным інстытутам савецкай сістэмы (школа, міліцыя, суд і г.д.), дыстанцыя паміж юнацкім ідэалізмам і канфармізмам пераадольваецца ў Беларусі без асаблівых праблем. Прадуктам пераадолення з'яўляецца чалавек, прыстасаваны да дзяржаўнага гвалту і які не ўяўляе іншага тыпу адносін паміж уладай і насельніцтвам.

Канфарміст не мае патрэбы ў альтэрнатывах. На ўзроўні размоваў на кухні ён можа выказваць сваю незадаволенасць уладай. Гэта незадаволенасць без асаблівых цяжкасцяў улоўліваецца сацыялагічнымі апытаннямі, але яна не трансфармуецца ў дзеянне. Таму сучасны аўтарытарызм не мае патрэбы ў масавай падтрымцы. Для захавання існуючага статус-кво яму цалкам дастаткова масавай пасіўнасці.

## Ніколі не кажы ніколі

Чаму адміністрацыя N-га раёна прайграла суд? Ды таму, што не мела вопыту адстойваць правамоцнасць сваіх рашэнняў у адкрытым змаганні. Між тым, «грамадзянскія справы ва ўсіх судах разглядаюцца на аснове спаборнасці і роўнасці бакоў у працэсе» (Грамадзянскі працэсуальны кодэкс РБ, артыкул 19).

Але гэта ў «рэальнасці», г.зн. на ўзроўні дэкларацый. А «на самай справе»? Тут я звярнуся па дапамогу да культуролага Андрэя Пеліпенкі: «Непадсуднасць улады — ключавы момант яе сакралізацыі ў грамадстве. З якім азвярэннем сістэма «адмазвае» ад пакарання сваіх! Нават самых дробных начальнікаў! За злачынствы супраць падуладнага ўлада застаецца без пакарання. І справа тут не ў банальнай кланавай салідарнасці. Проста калі стварыць прэцэдэнт адказнасці ўлады перад законам — бывай, сакральны статус».

Паколькі закон «ад улады», а не ад грамадскай дамовы, дык, зразумела, для самой улады закон не пісаны. Законы Хамурапі — не для самога Хамурапі.

Судовы працэс працягваўся паўгода. Суддзя рабіла ўсё, што ад яе залежыць, каб перакваліфікаваць маю жонку з істца ў адказчыка. Яна адмаўлялася праводзіць графалагічную экспертызу, і па яе прамой ініцыятыве нам быў высунуты сустрэчны іск.

Прыйшлося зайсці з іншага боку і звярнуцца са скаргай на дзейнасць старшыні СТ у пракуратуру. Старшыня СТ для пракуратуры — прыватная асоба. Графалагічная экспертыза была аператыўна праведзеная, і ўпершыню ў сваёй гісторыі адміністрацыя N-га раёна была вымушаная адмяніць рашэнне не па ўказанні «зверху», а з-за судовага іску, пададзенай «знізу».

Як тут ні прывесці здзіўлены ўсклік кіраўніка раённай землеўпарадкавальнай службы: «Мы не можа адмяніць сваё рашэнне. Мы ніколі сваіх рашэнняў не адмянялі!»

***

У адной з «азбук паліталогіі» ў мінулым годзе я ўжо адзначаў схільнасць да самападабенства (фрактальнай) структур беларускай сацыяльнай рэальнасці. А калі так, дык паміж непавагай да закона і непавагай да стандартаў на вытворчасці няма прынцыповай розніцы. За кітайцамі нам не ўгнацца. Чаму? Адказ на гэта пытанне я знайшоў у віцэ-прэм'ера Пятра Пракаповіча: «Сёння, на жаль, мы больш за ўсё адстаём менавіта ў адсутнасці жорсткага выканання тэхналогій, што і прыводзіць да тых пытанняў, у якіх мы з'яўляемся па многіх напрамках неканкурэнтаздольнымі».

Адштурхоўваючыся ад прыватнай гісторыі з участкам пад бульбу, я прыходжу да аналагічнай высновы. Індукцыя, аднак.

# Самотны палітрук і геапалітычная ніша

Алег ПАНФІЛАЎ

**Кожны раз, калі я гляджу на фотаздымак Аляксандра Лукашэнкі з якога-небудзь публічнага выступу, на памяць прыходзіць фотаздымак Макса Альперта «Камбат». Савецкі афіцэр з адкінутай рукой з пісталетам вельмі нагадвае маладога палітрука, інструктара палітаддзела савецкіх памежных войскаў Лукашэнку, але ў сучасным жыцці.**



З 1994 года Аляксандр Лукашэнка — палітрук віртуальнай арміі тых, хто сумуе па мінулым. У беларускага кіраўніка было рознае мінулае — ад «камуніста за дэмакратыю» да «апошняга дыктатара Еўропы». Але ён заўсёды на кані. Ён заўсёды мае рацыю. Нават калі не мае рацыі зусім.

Лукашэнка часта казаў пра Страчаную дзяржаву, але праз 20 гадоў у яго прамовах стала заўважна больш безвыходнасці. Аднавіць СССР не атрымалася, але прызнавацца ў гэтым было няёмка.

## Расійская мара Лукашэнкі

У Ельцына была ідэя захаваць пад кантролем постсавецкія тэрыторыі, але да таго часу Лукашэнка ўжо адчуў смак улады, і яму хацелася большага, чым Беларусь. Ён хацеў «магутнага і непарушнага» і не хаваў, што пад яго кіраўніцтвам.

Абодва — генетычна савецкія людзі, з аднолькавымі амбіцыямі. Але Ельцын прайшоў увесь шлях наменклатурнага чыноўніка, а ў Лукашэнкі быў іншы ўзровень.

Тым не менш, у адносінах Лукашэнкі і Ельцына можна вылучыць два перыяды. Першы адносіцца да часу дзіўнага ўтварэння — Саюзнай дзяржавы РФ і РБ. Саюзніцтва, як аказалася, заключаецца толькі ў тым, што ў грамадзян Беларусі няма праблем у Расіі, і наадварот. Калі яны, вядома, не палітыкі.

Другі перыяд — час старога лядашчага Ельцына і з'яўленне Пуціна. Цяжка сказаць, што менавіта хацеў Лукашэнка, які раптам вырашыў самастойна наведваць расійскія рэгіёны. Паводле дамовы пра Саюзную дзяржаву, ён меў поўнае права ездзіць куды захоча. Але ў Крамлі не спадабаліся цытаты з выступаў Лукашэнкі, асабліва пра расійскую «нікуды не вартую ўладу». Насельніцтву расійскіх рэгіёнаў, наадварот, гэта спадабалася. Да таго часу расійская прапаганда сама стварыла міф пра «моцнага гаспадарніка», пры якім у беларусаў стабільныя зарплаты і пенсіі. Думаю, што многія расіяне не хавалі жадання жыць у вялікім калгасе імя Лукашэнкі.

У 2001 годзе Пуцін спыніў далейшыя спробы зносін Лукашэнкі з расійскім народам. Былы інструктар палітаддзела, мабыць, забыўся, што такое чэкісты, тым больш тыя, якія валодаюць вялікай уладай. Заraз Лукашэнка можа наведваць Расію толькі па запрашэнні — «у зручны для яго час», як гэта прынята паміж дзвюма сяброўскімі краінамі.

## Лукашэнка на падхваце

Пасля свайго прызначэння в.а. прэзідэнта Расіі, Уладзімір Пуцін пачаў распрацоўваць план аднаўлення імперыі. Не ўзнаўлення чагосьці накшталт СССР, як марыў Лукашэнка, а Расійскай імперыі. У планах было прамое падпарадкаванне Крамлю постсавецкай прасторы пры захаванні прэзідэнтамі пасад у якасці сатэлітаў. Пасаду сатэліта тры гады спраўна выконваў Віктар Януковіч. Нядрэнна атрымліваецца ў прэзідэнтаў Таджыкістана, Кыргызстана і Арменіі. Абцяжараны «гістарычнымі сувязямі» Нурсултан Назарбаеў спрабуе лавіраваць паміж неабходнасцю праводзіць самастойную палітыку і небяспекай, што сыходзіць ад «пятай калоны» ў Казахстане, якую Пуцін можа падняць гэтак жа хутка, як «рускамоўную Украіну». Роўна палова былых савецкіх краін — Узбекістан, Туркменістан, Азербайджан, Грузія, Малдова і Украіна — больш не жадаюць чуць крамлёўскіх пакрыкванняў.

Унутры былога СССР назапасілася шмат супярэчнасцяў і амбіцый прэзідэнтаў, якія замінаюць інтэграцыі па крамлёўскім варыянце.

З лістапада ў Лукашэнкі было шмат падстаў для дрэннага настрою. Па-першае, з-за Майдана, які спалохаў не толькі Пуціна, але і многіх прэзідэнтаў постсавецкіх краін, што прызвычаіліся жыць у дыктатарскім спакоі. Страх станавіўся ўсё мацнейшы з-за таго, што здушыць пратэсты не ўдавалася некалькі месяцаў, і кожны дыктатар ужо пачаў адчуваць за спінай дыханне ўласнай апазіцыі. Лукашэнка апынуўся ў недарэчным становішчы, даведаўшыся, што на Майдане лунаюць забароненыя ім беларускія сцягі, а ў ліку першых загінуўшых апынуўся беларус Міхаіл Жызнеўскі.

Па-другое, мара аб ЕўрАзЭС паменшылася на чвэрць. Хваравітую страту Украіны Пуцін будзе памятаць доўга, і без сумневу, што ўвесь гэты час ён наўрад ці адмовіцца ад жадання вярнуць яе назад.

## На ростанях

Да пачатку афіцыйнага існавання ЕўрАзЭС засталося паўгода. Да 1 студзеня 2015-га напэўна назапасяцца праблемы, якія вымусяць Пуціна ці адмовіцца ад задумы аднавіць імперыю, што скарацілася да трыяды, або зменшыць амбіцыі. Ужо зараз Расія мае сур'ёзныя эканамічныя цяжкасці, з краіны сыходзяць інвестары і прыватны капітал. Выдаткі на анексію Крыма і вайну ва Усходняй Украіне адбіліся на Пенсійным фондзе Расіі, а калі гэта так, то ў бліжэйшы час паўстане сацыяльнае напружанне.

Пасля дэвальвацыі нацыянальнай валюты ў Казахстане ўзровень інфляцыі склаў 4,5 працэнта. Для краіны, якая выхвалялася самым высокім — большым, чым у Расіі, — узроўнем жыцця, павышэнне коштаў адбілася на рэпутацыі ЕўрАзЭС. Не толькі жыхары, але перш за ўсё эксперты лічаць, што Мытны саюз прынясе шмат непрыемнасцяў не толькі для Казахстана, але і для адносін трох краін. Ужо цяпер Беларусь і Расія незадаволеныя тым, што Казахстан мае намер пабудаваць некалькі заводаў па зборцы аўтамабіляў.

У Беларусі з пачатку года інфляцыя аказалася ў два разы вышэй, чым у Расіі і Казахстане, і для яе зніжэння няма ніякіх перспектыў. Калі краіны збіраюцца выконваць усе мэты, пастаўленыя перад ЕўрАзЭС, то самая незразумелая — эканамічная. Для Расіі, як ядра новай імперыі, наступаюць самыя цяжкія часы, параўнальныя хіба з калапсам савецкай эканомікі ў 1980-х гадах. «Аб'ём продажу расійскіх каштоўных папер у свеце з сакавіка па май упаў да 2 мільярдаў долараў з 19 мільярдаў долараў за аналагічны перыяд у мінулым годзе, што ўскладняе для расійскіх банкаў і кампаній пагашэнне сукупнага доўгу, які трэба сплаціць у гэтым годзе (паводле дадзеных ЦБ, гэта 191 мільярд долараў)», — аналізуе «Bloomberg». Заганная стратэгія сыравіннай эканомікі стала чарговымі граблямі для Крамля.

У траістым саюзе Беларусь апынулася эканамічна найменш абароненай краінай, якая залежыць ад расійскага газу і нафты. Гэта — кошт прыхільнасці да Расіі. Іншае звяно, якое злучае краіны, — аднолькавае стаўленне да правоў чалавека і дэмакратыі. Назарбаеў у гэтай трыядзе — старажыл, ён служыць прэзідэнтам з 1991 года. Лукашэнка ў гэтай якасці на тры гады маладзейшы. Але абодва раўняюцца на «маладога» дыктатара з 14-гадовым тэрмінам прэзідэнцтва — Пуціна. Гэтай тройцы камфортна адзін з адным, ніхто нікога не дакарае колькасцю палітзняволеных або несумленна праведзенымі выбарамі.

Лукашэнка баіцца Пуціна. Толькі Пуцін можа ацаніць Лукашэнку як палітыка. Толькі Пуцін можа даравадь Лукашэнку яго дзівацтвы ў выказваннях і ўчынках. За ўсю гісторыю прэзідэнцтва на Лукашэнку па некалькі разоў крыўдзіліся і Ельцын, і Пуцін. Потым прабачалі.

Цяпер Лукашэнка зноў заняў насцярожаную пазіцыю. Яму відавочна не падабаецца вайна ва Украіне. Ён разумее, што загнаны санкцыямі і міжнароднай ізаляцыяй Пуцін можа пайсці на рашучыя меры і ў дачыненні да Беларусі. З іншага боку, Лукашэнка разумее выгаду свайго становішча: для Расіі цяпер Беларусь — адзіны выхад у Еўропу. У гэтай сітуацыі для Лукашэнкі было б выгадна ваеннае і палітычнае паражэнне Пуціна, ён мог бы паспрабаваць зноў стаць папулярным у Расіі.

Лукашэнка — заўзяты папуліст. Але ён павінен разумець, што яго час сыходзіць, як сыходзіць пакаленне яго прыхільнікаў — людзей сярэдняга ўзросту і немаладых. Амаль напэўна праз год яны зноў забяспечаць перамогу прэзідэнту, калі ў суседняй Украіне не адбудзецца непрадбачанага палітычнага калапсу, які можа паўплываць на суседнія краіны. Еўрапейцам Лукашэнка ніколі не стане: моваў ён не ведае, дэмакратыю не разумее, на свабоды глядзіць як дырэктар саўгаса. Па-сутнасці, ён — жывы помнік эпохі, якая сышла, да якога ўсё яшчэ ідуць натоўпы людзей з кветкамі. Беларуская прапаганда стварыла прыкладна такі ж тып грамадзяніна, які нагадвае шараговага кубінца. Для жыхара «Вострава Свабоды» раем на зямлі з'яўляецца выключна Куба, за межамі — толькі войны і катастрофы.

І, нарэшце, самае непрыемнае для Аляксандра Рыгоравічам. На самай справе, маркуючы па падзеях апошніх гадоў, ён ні на што не ўплывае. Працэсы адбываюцца вакол Беларусі, а ён толькі своечасова прыстасоўваецца. Яму важна захаваць уплыў на 207 600 квадратных кіламетраў, усё астатняе яго не датычыцца. Па вялікім рахунку, Лукашэнка — не палітык. Калі прааналізаваць хаця б частку публікацый у прэсе пра Лукашэнку, то стане ясна, як часта беларускі прэзідэнт становіцца героем публікацый не як палітычны дзеяч, а толькі дзякуючы сваім паводзінам і неардынарным выказванням, як майстар размоўнага жанру.

Бліжэйшыя гады стануць пераломнымі для постсавецкай прасторы. Палова краін ужо вызначыліся са сваім выбарам. Украіна, Малдова і Грузія пачынаюць працэс інтэграцыі ў Еўрасаюз. Азербайджан быў і будзе важнай энергетычнай крыніцай для Еўропы, да яго далучаецца Туркменістан. Узбекістан, хутчэй за ўсё, будзе працягваць палітыку ізаляцыянізму, але ўжо прыкметныя кантакты кіраўніцтва краіны з Захадам. Таджыкістан і Кыргызстан працягваюць цікавіцца Мытным саюзам, але далучацца не спяшаюцца.

У якой геапалітычнай нішы застанецца Беларусь?



## Уладзімір Някляеў:

# Творчасць — практыкаванні ў свабодзе

**9 ліпеня — дзень народзінаў Уладзіміра Някляева. Не так даўно ў выдавецтве «Лімарыус» выйшла ягоная аўтабіяграфічная кніга «Знакі прыпынку». Пра кнігу і пра жыццё, пра паэзію і палітыку пагутарыў з Уладзімірам Някляевым журналіст і літаратуразнаўца Сяргей Шапран.**




**Уладзімір Някляеў.** Фота Сяргея Шапрана

***— Уладзімір Пракопавіч, першае пытанне, напэўна, падасца вам дзіўным — і тым не менш: як нарадзілася ідэя кнігі «Знакі прыпынку»?***

— Ёсць такі журналіст і літаратуразнаўца Сяргей Шапран, які аднойчы прыйшоў і спытаў: «Калі вы ўсё раскідваеце нейкія «знакі» па розных выданнях, дык чаму б іх не сабраць, каб яны сталі кнігай?» Час, маўляў, раскідваць камяні — і час камяні збіраць. На тое, каб збіраць, не меў я часу, а Шапран яго недзе знайшоў. Ён сабраў «знакі» — і дзякуючы гэтаму з'явілася кніга, да рукапісу якой я дадаў штокольвечы з таго, што нідзе не друкавалася.

Калі я рабіў першыя запісы ў Варшаве, пісаў «знакі» ў Хельсінкі, куды змушаны быў з'ехаць у 1999 годзе, дык зусім не думаў пра тое, каб друкаваць іх. Яны занатоўваліся проста для памяці. На шматках паперы, на сурвэтках… Гэтым, дарэчы, тлумачыцца іх адкрытасць: я пісаў для сябе. Для іншых пішацца інакш. Хто б і як ні даводзіў мне, што ў той ці іншай кнізе мемуарнага жанру (а кніга «Знакі прыпынку» да гэтага жанру ўсё ж мае адносіны) ён менавіта такі, якім сябе выпісаў, я ў гэта не паверу, бо ніводзін чалавек не можа так расхрыстацца, каб паўстаць голым, таму што там, дзе ён голы, там страшна. Нават — і перш за ўсё — перад самім сабой.

У кнізе ёсць «знак», запісаны са слоў вядомага палітыка Андрэя Клімава пасля таго, як ён у чарговы раз выйшаў з турмы. «Калі я зазіраю ў самога сябе, у найцёмныя свае глыбіні, і бачу ў іх сябе самога такім, які я ёсць, то ўсе астатнія людзі, якімі б яны ні былі, здаюцца мне анёламі». А ўпяклі яго ў турму далёка не анёлы — і не анёлы там дапякалі. Гэтаксама, як пазней мяне.

***— І вы можаце сказаць пра сябе тое самае, што сказаў пра сябе Андрэй Клімаў?***

— Што значыць: магу сказаць? Я пра тое і кажу. Безумоўна, гэта гранічнае стаўленне да самога сябе, і выяўляцца яно можа хіба ў асобныя моманты, але наша жыццё — асобныя моманты і ёсць. Усё астатняе — тое, чаго магло і не быць.

***— Віктар Казько ў прадмове да «Знакаў прыпынку» назваў кнігу «раманам душы». Вы згодны з гэтакім «жанравым вызначэннем»?***

— Казько напісаў бліскучую прадмову. Калі я прачытаў яе, падумаў, што ў кнізе яна — ці не найлепшы «знак».

Не ведаю, ці можна «Знакі прыпынку» вызначыць як «раман душы», але нешта Віктар Казько, глыбокі пісьменнік і чалавек, усё ж угадаў, бо ў той час, калі з'явіліся першыя запісы, ува мне якраз адбывалася пераацэнка ўсяго зробленага, распачыналася, так бы мовіць, рэвізія жыцця. А сумленнай рэвізія магла быць толькі пры сумленных рэвізорах… Пазней, калі я зірнуў на сабраныя «знакі» як на магчымую кнігу, узнікла спакуса «рэвізора падкупіць», асобныя «знакі» падправіць, але спакусу тую ўдалося адолець. Ну, не дарэшты, бо нейкія запісы з кнігі я ўсё ж выдаліў. Але не выпраўляў тыя памылкі, якія ўжо немагчыма выправіць. Не перапісваў старонкі жыцця нанова.

***— Сярод іншых «знакаў» у кнізе ёсць запіс: «Чалавек і сам памылка, і створаны пераважна для памылак». Гэты «знак» вам не хацелася падправіць?***

— А што тут падпраўляць?.. Так было — і так ёсць. І, як па ўсім відаць, так і застанецца. Калі чалавек, чалавецтва не зразумее, што памылку трэба не падпраўляць, а выпраўляць.

***— Выпраўляць самога сябе?***

— Так. Выпраўляць самога сябе.

***— А як?***

— А так, як яшчэ ў адным «знаку» напісана: «Усё магло быць інакш, калі б чалавек не ўявіў сябе на зямлі пасланнікам неба».

Памылку можна выправіць толькі праз змену ўяўлення пра самога сябе. «Человек — это звучит гордо!» Хіба?.. Калі чалавек пачаўся з таго, што адарваў галаву падобнаму сабе. І не для таго, каб з'есці…

Мы ж пра сябе саміх амаль нічога не ведаем. Чаму?.. Не толькі таму, што складана спасцігаць таямніцу свядомасці, як даводзіць адзін з персанажаў, доктар у апавяданні «Змены сувязяў», якое напісаў я пасля турмы. Праблема яшчэ і ў тым, што пра такіх саміх сябе, якія мы насамрэч ёсць, мы не надта хочам ведаць. Вось і выдумалі такое чалавеказнаўства, якое выдумалі. Стварылі не толькі мемуарную літаратуру, але і мемуарную навуку. Вунь згадайце, напрыклад, рускую філасофію. Кажу пра рускую, бо беларускай практычна няма. Ці, дакладней, яна ёсць, але яе амаль ніхто не ведае. А таго, пра што не ведаеш, нібы і не існуе. Ну, нехта чуў пра гісторыка і філасофа (зноў жа хутчэй расійскага, чым беларускага) Міхаіла Каяловіча («Не давярайце зманлівай аб'ектыўнасці, у гісторыі ўсё суб'ектыўна»), прагартаў нехта «Мяне няма» Валянціна Акудовіча — і ўсё на тым… Дык вось уся руская філасофія, пачынаючы ад Ніла Сорскага і далей: Салаёў, Бярдзяеў, Розанаў, Лосеў — гэта літаратура. Ангельцы з немцы значна бліжэй да навукі пакапалі, але і там… «Бог памёр!» З чаго Ніцшэ (які таксама, між іншым, больш літаратар, чым філосаф) гэта ўзяў? З эмоцый, з рэфлексій… З таго самага, дарэчы, з чаго ўзяў, што яго няма (а значыць, ён, як і Бог, памёр) Акудовіч.

Увогуле не факт, што тое, што мы называем розумам, у нас ёсць. Што мы не называем гэтым словам нешта іншае.

***— Нешта літаратурнае?***

— (Смяецца). Так, нешта літаратурнае. І глядзі, што маем… Калі азірнуцца ў мінулае, дык выглядае, нібы на зямлі жылі толькі тыя, хто ці сам нешта напісаў, ды тыя, пра каго іншыя напісалі. Таму Лукашэнка гэтак хоча ўбачыць беларускі раман «Вайна і мір».

**Безумоўна, гэта гранічнае стаўленне да самога сябе, і выяўляцца яно можа хіба ў асобныя моманты, але наша жыццё — асобныя моманты і ёсць. Усё астатняе — тое, чаго магло і не быць**

Думае, што ў тым рамане без яго не абыдзецца. Мільён долараў заплаціць абяцае.

***— Дык чаму не напішаце?***

— (Смяецца). Бо ведаю, што, як заўсёды, падмане. Не заплаціць.

***— Але ж у «Знаках прыпынку» пра яго ёсць…***

— Так, там ёсць. А тут і цяпер давай пра яго не будзем. Як-небудзь абыдземся.

***— Тады вернемся да літаратуры. Што яна для вас?***

— Лёс. Калі б я не быў паэтам, літаратарам, я пражыў бы іншае жыццё.

Апроч таго, я беларускі паэт. Беларускі літаратар. Чалавек, які стварае тэксты на мове, якая знікае. А гэта таксама — іншае жыццё. Істотна адрознае ад ангельскага, нямецкага ці рускага літаратурных жыццяў.

***— Горшае?***

— Якое ёсць. Лёс не выбіраюць.

***— Але ж вы пачыналі з вершаў на рускай мове. Літаратуры вучыліся ў Маскве, дзе вам прапанавалі выдаць першую кнігу, увогуле застацца. У іншай літаратуры, у іншым жыцці. Маглі выбраць…***

— Значыць, не мог. Бо літаратуры я вучыўся не ў Маскве, а ў Крэве. На руінах Крэўскага замка, камяні якога нашэптвалі мне, малому, беларускімі словамі беларускія казкі і легенды… Таму ў кнізе, пра якую мы гаворым, ёсць запіс: «Сто, калі не тысячу разоў мне казалі, што я не на тым шляху, не на тым баку, бо ўсяму беларускаму, найперш мове з літаратурай, наканавана скананне. Няхай так. Але я ў тым не буду вінаваты».

***— Праблема ў вінаватасці?***

— Праблема ў «наканаваным скананні». Хто яго наканаваў? Бог, які кожнаму народу даў мову сваю? Не. А ўсё, што не ад Бога, можна адмяніць. Вось я і спрабую.

***— У палітыцы?***

— Там таксама. Але найперш у самой літаратуры. Той жа Андрэй Клімаў, пра якога мы ўжо згадвалі, і не чытаў па-беларуску, і не думаў пра тое, што скананне беларускай мовы трэба неяк адмяніць, пакуль не «нарваўся», як ён кажа, на мой раман «Лабух». Цяпер і чытае па-беларуску, і думае, як адмяніць скананне таго, без чаго Беларусь — не Беларусь. Паўночна-Заходні край.

***— Дарэчы, пра вашы раманы. Некалі вы сказалі, што проза не патрабуе такіх энергетычных высілкаў, як паэзія, і вы пішаце прозу, калі не стае энергіі пісаць вершы. Але ж напісаць раман і напісаць верш — высілкі непараўнальныя. Ці вы і цяпер на прозе, як раней сказалі, «перапачываеце»?***

— Паспяшаўся я некалі такое сказаць. (Смяецца). Тады спіна ад прозы яшчэ не так балела.

І тым не менш… У паэзіі кожны радок — энергетычны выдых. Без гэтага — ну ніяк. Інакш ты не пішаш, а прыкідваешся, што пішаш. Выдаеш імітацыю пісьма за сапраўднае пісьмо. А гэта горш, чым графаманія. Бо графаманія — рэч відавочная і бяскрыўдная, яна паэзію не падмяняе. А імітацыя — падмяняе. І падманвае, бо часцяком робіцца на такім прафесійным узроўні, што нехта прымае яе за паэзію.

Я не надта складана тлумачу? Калі прасцей, дык сёння — час імітатараў. І гэта адна з прычын, па якой страчваецца цікавасць да вершаў. Людзі адчуваюць, што нешта тут не тое. І не хочуць быць падманутымі. Бо падмануць іх спрабуюць сёння ўсе: палітыкі, эканамісты, сацыёлагі, тэлебачанне і газеты, а тут яшчэ і паэты…

Карацей, калі вам прапануюць нейкі вершаваны тэкст, дык з паэзіяй вы маеце справу толькі тады, калі адчуваеце закладзеную ў словах, а значыць, затрачаную аўтарам на стварэнне верша энергію. Ну, так, як адчуваеце сонечнае цяпло. Калі ж гэтага няма, дык няма нічога. Ці нешта ёсць, але не паэзія.

Гэта датычыць і прозы, але канцэнтрацыя энергіі ў кожным радку тут усё ж меншая. Напісаць: «Яна ішла па зямлі так лёгка, плаўна, што здавалася, нібы ў небе спыняюцца і любуюцца ёй аблокі», — гэта ўсё ж не тое, што выдыхнуць: «Так ідзе, што воблакі стаяць!..»

Вось што я меў на ўвазе, калі казаў, што на прозе перапачываю. І, паўтараю, паспяшаўся гэта сказаць, бо проза, да ўсяго, яшчэ і фізічна нялёгкі занятак.

**Працяг будзе (цалкам інтэрв'ю чытайце 9 ліпеня на нашым сайце novychas.info)**




# Наперад у 1914-ы

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму, 28 чэрвеня 1914 года, у Сараева сербскімі тэрарыстамі быў забіты прынц Франц-Фердынанд, што стала пралогам да Першай сусветнай вайны. Сёння прэса знаходзіць шмат паралеляў паміж тымі падзеямі і цяперашнім украінскім крызісам.**

Фармат адзначэння юбілею Першай сусветнай вайны на Захадзе за апошнія гады карэктаваўся некалькі разоў. Спачатку, недзе напрыканцы нулявых, быў прапанаваны грандыёзны план Сільвія Берлусконі. Італьянскі прэм'ер заклікаў прыняць Сербію і Боснію ў склад ЕС якраз у гадавіну сараеўскага замаху, а саму святочную працэдуру правесці ў сімвалічных мэтах у Сараева.

Пасля ўзнік праект сумеснага саміту лідараў нацый, якія ўдзельнічалі ў вайне. Аднак з-за недахопу грошай і росту нацыяналізму на перыферыі ЕС у Брусэлі вырашылі на глабальным узроўні нічога не адзначаць. У выніку яшчэ год таму падавалася, што ўсё абмяжуецца кулуарнымі дэбатамі гісторыкаў (некаторыя з іх, дарэчы, лічаць, што статус Першай сусветнай вайны трэба надаць напалеонаўскім войнам), выхадкамі нацыяналістаў і жартамі над узроўнем ведаў сучасных еўрапейцаў пра падзеі стогадовай даўніны. Напрыклад, сёння 18 працэнтаў брытанцаў лічаць, што ў 1914–1918 гадах іх прадзеды ваявалі з нацыстамі.

Аднак у сувязі з падзеямі ва Украіне інтарэс да юбілею значна вырас. Практычна кожнае буйное выданне на Захадзе ўзгадала стрэл Гаўрылы Прынцыпа і знайшло, што яго наступствы вельмі падобныя на тое, што мы назіраем ва Украіне. Як вядома, адразу за забойствам пачалося міжнароднае супрацьстаянне, якое так і не ўдалося вырашыць дыпламатычнымі сродкамі. Як заявіў кіраўнік нямецкага МЗС Франк-Вальтэр Штайнмаер у інтэрв'ю «Gazeta Wyborcza»: «Тое, што адбываецца ва Украіне, нагадвае лета 1914-га, тады здавалася, што мы маем справу з лакальным канфліктам, а ён выліўся ў сусветную вайну».

Праўда, найперш алюзіі на 1914-ы год узніклі не ў Штайнмаера, а ў яго шведскага калегі. Яшчэ ў сакавіку Карл Більдт быў вельмі ўражаны тым, як грэблівa Масква ставіцца да прынцыпу суверэнітэту іншых краін. Дыпламат пісаў: «Праз стагоддзе пасля 1914 года мы раптам апынуліся ў Еўропе, дзе адбываюцца напад, агрэсія і пагроза масавага прымянення ваеннай сілы».

Расійская прэса ў сваю чаргу прызнавала, што агульнага з 1914 годам сапраўды шмат чаго. Напрыклад, узгадваліся аўстрыйскія канцэнтрацыйныя лагеры для тагачасных русафільскіх актывістаў Заходняй Украіны. «Сёння мы з'яўляемся сведкамі гістарычнага дэжавю. Тыя ж асобы, зноў лозунгі аб «праклятых маскалях», зноў неўтаймоўнае жаданне зацягнуць Украіну, коштам крыві і ахвяраў, у «еўрапейскую сям'ю народаў», — пісала «Газета.ру».

Нацыяналістычныя спекуляцыі такога кшталту ў Расіі працягваюцца дасюль, хаця, на думку нават расійскай аналітыкі, гэта вельмі небяспечна, паколькі заганяе Крэмль у тупік, як гэта было сто гадоў таму. Тады еўрапейскія ўрады сталі заложнікамі сваіх геапалітычных дактрын, адыход ад якіх мог быць успрыняты грамадствам як маральная капітуляцыя. Інтэрнэт-выданне «КМ.Ру» піша: «Сітуацыя нагадвае тую, якая склалася сто гадоў таму напярэдадні Першай сусветнай вайны. Асноўныя акторы сусветнай палітыкі трапілі тады ў расстаўленыя стратэгічныя пасткі. Не ваяваць пасля Сараеўскага забойства для любой з вядучых еўрапейскіх дзяржаў было немагчыма. Таксама і сёння Расія ўжо не можа кінуць рускамоўны Паўднёвы Усход Украіны».

У гэтым плане можна сказаць, што ў еўрапейцаў значна лепшая памяць на гісторыю. Яны, згадваючы прэлюдыю Першай сусветнай вайны, намагаюцца вынесці ўрокі з тых падзей і не даць катастрофе паўтарыцца. Перш за ўсё, прэса заклікае палітыкаў утрымацца ад авантурызму, характэрнага для іх калег стогадовай даўніны. У прэсе актыўна выкарыстоўваецца тэрмін «самнабулы» — так назваў брытанскі гісторык Крыстафер Кларк еўрапалітыкаў пачатку мінулага стагоддзя, якія недаацэньвалі тэракт у Сараева.

«Няма простых варыянтаў для амерыканскага прэзідэнта, і няма ніякіх гатовых рашэнняў пад рукой. Відавочным з'яўляецца тое, што актыўныя ваенныя дзеянні або моцныя эканамічныя санкцыі не лакалізуюць канфлікт. Маральны імператыў, які часта быў асновай знешняй палітыкі ЗША, павінен быць прыбраны. Гісторыя можа не паўтарыцца, хаця сёння свет, як ніколі, падобны на свет у пачатку лета 1914 года», — лічыць канадская «Mail and Globe».

Яшчэ далей ідзе выданне «Forbes», якое лічыць, што ўмяшанне Злучаных Штатаў у еўрапейскія справы ў пачатку XX стагоддзя заклала асновы цяперашняга ўкраінскага канфлікту. У ход ідзе цытата з твораў Уінстана Чэрчыля, які ў 1936 годзе пісаў: «Амерыка павінна была займацца сваімі справамі і не лезці ў вайну. Калі б вы (амерыканцы) не ўступілі ў вайну, Антанта магла заключыць мір з Германіяй увесну 1917 года. Маючы на руках мірную дамову, мы б маглі не дапусціць калапсу ў Расіі і прыходу да ўлады камуністаў. Італія і Германія ў такім выпадку не падпісалі Версальскую дамову, якая праклала шлях фашыстам».

Можна казаць, што заходняя грамадская думка схіляецца да таго, каб любымі шляхамі шукаць дыпламатычныя сродкі вырашэння канфлікту ва Украіне. Гэта для Захаду таксама справа прэстыжу. Рымейк глабальнай вайны ў Еўропе роўна праз сто гадоў пасля Першай сусветнай быў бы ганьбай для ўсёй еўрапейскай цывілізацыі, што пахавае давер у будучыню еўраінтэграцыі і, магчыма, нават у прагрэс.

Галоўная праблема, аднак, не ў тым, каб пераканаць Маскву разам шукаць выхад з крызісу. Справа ў тым, што гэта канфлікт абсалютна новага ўзроўню з ужываннем інфармацыйных сродкаў. Гэта нараджае новых непадкантрольных палітычных акцёраў, выклікае непрадказальныя фактары, наступствы якіх цяжка пралічыць. Такога канфлікту, і яшчэ ў сябе пад бокам, ні Еўропа, ні Расія і іх эліты не ведалі.

Паміж волі ўгадваецца адзін з галоўных тэзісаў кнігі Крыстафера Кларка: «Па-сутнасці, Першую сусветную вайну развязала маленькая група тэрарыстаў... Вырашыць канфлікт можна было вельмі лёгка, але для еўрапейскага крызіснага менеджменту, які дзейнічаў старамоднымі інструментамі, праблема аказалася занадта складанай».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Анна Гродска



Самы вядомы транссэксуал Польшчы трапіла ў Сейм па спісе партыі «Рух Палікота», аднак цяпер вырашыла змяніць партыйную шчыльду. Яна заявіла пра пераход у «Партыю Зялёных». Для эколагаў, якія збіраюць на выбарах не больш 1–1,5 працэнта, учынак Гродскай стаў сапраўдным падарункам. Іх партыя не толькі ўпершыню ў гісторыі атрымала парламенцкае прадстаўніцтва, аднак і прарвала медыйную блакаду. Учынак Гродскай вельмі цікавы і для перспектыў наступнай кампаніі ў Сейм. На левым флангу польскай палітыкіназіраецца татальны хаос. Палікот, калі меркаваць па сацыялагічных апытаннях, страціў давер выбаршчыкаў. Няма веры і да экс-камуністаў з Саюзу левых дэмакратаў. На думку некаторых палітолагаў, Зялёныя могуць скарыстацца кан'юнктурай і прыцягнуць да сябе інтарэс левага электарату, які расчараваўся ў былых ідалах. Што тычыцца Гродскай, дык яна кажа, што змяніла колеры, паколькі заўсёды была больш левай па поглядах, чым Палікот. Сяброўства ў партыі «Рух Палікота», якая цяпер называецца «Твой Рух», было патрэбна ёй выключна для таго, каб дапамагчы разбурыць двухпартыйную сістэму, што склалася ў Польшчы, калі выбаршчыку даводзіцца выбіраць выключна паміж кансерватарамі і ліберал-кансерватарамі.

### Педра Санчас



42-гадовы іспанскі сацыяліст, дэпутат мадрыдскай ратушы, хутчэй за ўсё, бліжэйшым часам узначаліць Іспанскую рабочую сацыялістычную партыю (PSOE), што цяпер знаходзіцца ў апазіцыі. Пра гэта, на думку палітолагаў, сведчаць вынікі ўнутрыпартыйных выбараў дэлегатаў на партыйны з'езд, які прызначаны на канец ліпеня. Група Санчаса атрымала больш за 24 тысячы галасоў, што гарантуе ёй большасць на з'ездзе, які, акрамя ўсяго, павінен назваць пераемніка Альфрэда Рубалькаба, цяперашняга генсека PSOE. Увогуле, Рубалькаба не хацеў бачыць на гэтай пасадзе Санчаса, аднак яўна недаацаніў моц рэгіянальных апаратчыкаў, з якімі пасварыўся. Аналізуючы геаграфію галасавання, можна заўважыць цікавую рэч. 15 тысяч галасоў Санчас атрымаў у Андалузіі, дзе моцныя структуры PSOE. Фактычна, за кошт гэтых галасоў Санчас і стане генеральным сакратаром. Такі расклад дае падставу казаць пра змову супраць цэнтральнага кіраўніцтва партыі, якую арганізавалі андалузскія партыйныя лідары. Санчас ужо дзеліцца планамі кіравання партыяй. Паводле яго словаў, PSOE павінна вярнуцца да пастулатаў класічнай сацыял-дэмакратыі.

### Нурсултан Назарбаеў



Прэзідэнт Казахстана стаў закладнікам прыдуманага ім жа рытуалу візітаў у правінцыю. У рамках такіх паездак у гарадах, якія наведвае Абішавіч, адчыняюцца новыя помнікі. Падобная падзея планавалася і ва Усць-Каменагорску. Тут 23 чэрвеня, напярэдадні візіту Назарбаева, з'явіўся помнік вядомаму казахскаму асветніку XIX стагоддзя Абаю і яго сябру, расійскаму вучонаму Міхаэлісу, які жыў тут у ссылцы. Як толькі манумент адкрылі, ён стаў аб'ектам крытыкі. Чамусьці скульптар выявіў Абая і Міхаэліса ў дзіўных прапорцыях, амаль што карлікамі. Казахская грамадскасць адразу абвінаваціла ўлады і скульптара ў здзеку з памяці Абая. Мяркуючы па ўсім, скандал дайшоў да прэзідэнта. Таму, прастаяўшы роўна суткі, скандальны помнік кудысьці знік. Акімат (абласны выканкам) заявіў, што будзе распрацаваны новы праект манументальнай кампазіцыі. Гэта выклікала новы скандал наконт бюджэтных грошай, якія па недагляду чыноўнікаў пайшлі на стварэнне халтурнай скульптуры. Акімат, у сваю чаргу, кажа, што помнік скульптары зрабілі бясплатна. Увесь гэты скандал, на думку прэсы, рыкашэтам б'е па ўсёй створанай Назарбаевым дзяржаўнай сістэме.

# Васіль Быкаў пад цэнзурным абстрэлам

Сяргей ШАПРАН

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 24, 25**

**Да 90-годдзя Васіля Быкава ў выдавецтве «МЕДЫЯЛ» пры падтрымцы мецэната Паўла Бераговіча выйшлі адразу дзве ўнікальныя кнігі — «Мёртвым не баліць» і «Ліквідацыя» — і абедзве ўпершыню апублікаваныя без тых цэнзурных купюр, якія былі зроблены ў аповесцях падчас іх першай публікацыі і якія пераходзілі на працягу дзесяцігоддзяў з аднаго выдання ў другое.**



Васіль Быкаў, пачатак 1970 гг.

## «Комитет государственной безопасности докладывает...»

Сапраўды, толькі дзесяцігоддзямі пазней стала вядома, што імёны Генадзя Бураўкіна і Анатоля Вярцінскага фігуравалі ў накіраваным у ЦК КПСС данясенні старшыні КДБ СССР Уладзіміра Сямічаснага (які, дарэчы, быў адным з ініцыятараў партыйнага перавароту, у выніку якога на змену Хрушчову прыйшоў Брэжнеў):

«Комитет государственной безопасности докладывает о процессах в среде белорусских писателей, вызванных опубликованием и критикой повести В. Быкова «Мертвым не больно».

Резкое размежевание мнений было вызвано редакционной статьей газеты «Советская Белоруссия» «Вопреки правде жизни» о творчестве В. Быкова и особенно данной в ней оценкой указанной повести...

Некоторые белорусские писатели открыто стали на защиту В. Быкова, считая, что газета «Советская Белоруссия» выступила необъективно. Заведующий отделом газеты «Литература и мастацтва», член КПСС писатель Г. Буравкин заявил: «Советская Белоруссия» перечеркнула творчество В. Быкова и вызвала обратную реакцию среди писателей. Происходит издевательство. После выступления газеты складывается впечатление, что В. Быкова судят как на процессе».

Член КПСС писатель В. Зуб сказал: «В. Быков написал правду о войне. И такое могло быть в действительности».

Известный белорусский поэт А. Кулешов назвал статью «отрыжкой культовщины».

Некоторыми писателями предпринимаются конкретные шаги с тем, чтобы публично, на страницах печати выступить в защиту В. Быкова. Так, литературовед В. Буран сдал в журнал «Неман» статью под названием «Озаренность трагическим», в которой дается положительная оценка творчеству В. Быкова. Редколлегия журнала намерена напечатать ее в ближайшем номере.

Руководитель гродненского отделения Союза писателей Белоруссии, член КПСС А. Карпюк обратился с просьбой к А. Суркову помочь «спасти» В. Быкова.

Молодые писатели Г. Буравкин и А. Вертинский написали письмо в ЦК КПБ против статьи «Вопреки правде жизни» и проводили сбор подписей среди писателей республики.

Повесть В. Быкова привлекла внимание некоторых печатных органов капиталистических стран, которые стремятся использовать ее в пропагандистских целях. Газета «Коррьере делла сера» от 18 марта 1966 года поместила статью враждебного нам характера, использующую именно те моменты, которые критикуются за искажение событий периода Великой Отечественной войны.

Гамбургское издательство «Классен» обратилось к В. Быкову за разрешением на перевод его книги...»

## Рукапісы не гараць

Толькі з цягам часу высветлілася, што санкцыю на шальмаванне Быкава даў асабіста тагачасны галоўны савецкі ідэолаг Міхаіл Суслаў. Той самы Суслаў, які пасля зняцця Мікіты Хрушчова фактычна стаў другім пасля Леаніда Брэжнева чалавекам у партыі і дзяржаве. Ён адказваў за пытанні ідэалагічнай палітыкі ў СССР, за кіраўніцтва дзейнасцю СМІ, цэнзуру, культуру і мастацтва, вышэйшую адукацыю і школу, адносіны дзяржавы і рэлігійных арганізацый. З яго імем звязаныя ганенні дэмакратычна настроенай інтэлігенцыі — разгром рэдакцыі часопіса «Новый мир», выгнанне з СССР Салжаніцына, высылка Сахарава. І таму невыпадкова аповесць Быкава на многія гады аказалася забароненай — пасля першай публікацыі яна не друкавалася сямнаццаць гадоў (у перакладзе на рускую мову не выдавалася дваццаць тры гады). Сімвалічна, што ўжо ў 1985 годзе падчас гутаркі з Алесем Адамовічам Быкаў прызнаваўся, што, можа, і не ўзяўся б за «Мёртвым не баліць», дадаваў: «Я пісаў у 64-м годзе. Але, канешне, быў іншы час, быў «Новый мир», быў Твардоўскі. Я, праўда, калі пісаў, зусім не разлічваў на «Новый мир», на Твардоўскага. Проста пісаў, мне хацелася нахабна напісаць пра гэта. Проста пісаць. І я не ўяўляў: надрукуюць або не. А калі надрукуюць, то ці пасадзяць мяне, ці выключаць аднекуль, ці яшчэ што, — ніякага ўяўлення я не меў. Я пра гэта не думаў... Не ведаў правілаў гульні».

Упершыню па-беларуску «Мёртвым не баліць» выйшла толькі ў 1982 годзе ў Зборы твораў В. Быкава і найперш дзякуючы прынцыповай пазіцыі дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міхала Дубянецкага. Зрэшты, і тады ў творы да старых купюр дадаліся новыя, якіх патрабаваў беларускі Галоўліт. Аднак гэтая публікацыя стала так бы мовіць эталоннай — у далейшым аповесць друкавалася ў гэтай рэдакцыі. Менавіта такой, скалечанай, са мноствам купюр, публікуецца да гэтага часу.

Сам аўтар шкадаваў пра тое, што не збярогся першапачатковы варыянт. А між тым лічыць страчаным аўтарскі, дацэнзурны варыянт «Мёртвым не баліць» нельга, бо ў сапраўднасці захавалася нават дзве раннія рэдакцыі аповесці — чарнавая і чыставая. Чарнавая была знойдзена вясной 2010 года ў кватэры на вул. Свярдлова ў Гродне, дзе некалі жыў пісьменнік і дзе цяпер жыве ўнук Васіля Уладзіміравіча Яўген Быкаў. Што ж тычыцца чыставой рэдакцыі, дык пасля публікацыі твора ў 1965 годзе ў «Маладосці» яго машынапіс застаўся ў рэдакцыі і пазней быў перададзены на пастаяннае захаванне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Менавіта па гэтым экземпляры, з узнаўленнем усіх купюр, якія былі зроблены ў 1965 і 1982 гадах, і выйшла цяпер знакамітая аповесць.



Запісы Васіля Быкава да аповесці «Ліквідацыя». Захоўваецца ў архіве В. Быкава ў Гродне

# Ліквідацыя «Ліквідацыі» Васіля Быкава

**Хрэстаматыйны «Сотнікаў» упершыню надрукаваны пад сваёй сапраўднай назвай — «Ліквідацыя».**

## Да гісторыі назвы

Сам Быкаў пакінуў на апошнім аркушы ўласнага перакладу аповесці на рускую мову наступныя варыянты назвы: «Ликвидация», «Две судьбы», «Пятый под виселицей», «Пятеро под виселицей», «Судьба». Відаць, як варыянт, яшчэ адна працоўная назва пазначана ім на палях ранняй, чарнавой рэдакцыі — «Пяты лішні». Па сведчанні ж гродзенскага прафесара Аляксея Пяткевіча, першапачаткова аповесць называлася «Двое ўначы». (Забягаючы наперад, заўважым, што пад назвай «Двое в ночи» Быкаў у 1972 годзе напісаў кінасцэнарый.) Аднак пісьменнік усё ж спыніўся на «Ліквідацыі».

У гэтай сувязі варта прыгадаць тлумачэнне Міхася Тычыны, якое ён даў у кнізе «Народ и война: национальный характер как объект изображения»: «В фашистских инструкциях это слово имело такой смысл: «Один из противников должен быть уничтожен. Носителей враждебной идеологии следует не сохранять, а ликвидировать. Под понятие «партизан» подпадает каждый, кто, будучи гражданским лицом, затрудняет сам или подстрекает других затруднять действия германских вооруженных сил». Речь шла о физической «ликвидации». В. Быков же говорит о том, что гораздо страшнее физической смерти, — о «ликвидации» человека как личности».

Аднак гэтая назва была згублена яшчэ падчас першай публікацыі — «Сотнікавым» твор быў названы галоўным рэдактарам «Нового мира» Аляксандрам Твардоўскім. Хоць сам Васіль Уладзіміравіч лічыў назву няўдалай, ён пісаў у «Доўгай дарозе дадому»: «Чаму — Сотнікаў? Ужо з увагі на двух герояў трэба — Рыбак і Сотнікаў, — задаваўся ён пытаннем. — Але мне патлумачылі, што так лепш — паводле прозвішча станоўчага героя. Галоўны, маўляў, меў на яго адмысловыя спадзяванкі, — мусіць, гэткія, як і аўтар».

## Цэнзура па-«палымянску»

У 1970 годзе аповесць ужо выйшла ў перакладзе на рускую мову ў «Новом мире», а ў часопісе «Полымя» яшчэ збіраліся паседжанні, на якіх Быкаву настойліва прапаноўвалі «дапрацаваць» твор. Да прыкладу, Максім Танк раіў «крыху праясніць агульны фон, каб не такая фатальная «обреченность» ляжала на героях гэтай аповесці, і, можа, хоць у фінальнай сцэне паказаць галоўных віноўнікаў усёй трагедыі — фашысцкіх захопнікаў». Больш заўваг было ў Петруся Броўкі, пра што ён і пісаў у лісце ў рэдакцыю «Полымя»:

«Калі я адлажыў аповесць і падумаў, якое пачуццё яна ў мяне выклікала? Бясспрэчна, нянавісць да здраднікаў-паліцаяў, ну і канечне да немцаў, хоць іхнюю лютасць можна было б паказаць больш. А то доўгі час яны наогул застаюцца па-за сцэнай.

Што б мне хацелася? Бачыць аповесць надрукаванай з некаторымі папраўкамі і дадаткамі, якія аўтару зрабіць было б не вельмі цяжка.

Па-першае, хоць у парадку адступлення паказаць хоць бы адну падзею гераізму партызанаў. Хай бы яна звялася,

скажам, да разгрому невялічкага гарнізона дзесьці ў воласці, у невялікім мястэчку. А то ўвесь час яны ўцякаюць (гэтыя Рыбак і Сотнікаў).

Па-другое. Вельмі прыкра, калі Рыбак вядзе Сотнікава на смерць. Можа, адзінкавы такі выпадак і быў, але гэта неўласціва нашаму партызанскаму руху. Можа, варта было б пазбегнуць гэтага, а калі не, дык было б добра, каб Рыбака (нягледзячы на яго пераход у паліцаі) усё роўна павесілі. А то выходзіць, што здрадніцтва, шкурніцтва перамагае».

Катэгарычна за друкаванне аповесці выказваўся Янка Брыль, які таксама даслаў ліст у «Полымя»: «Аповесць В. Быкава, пад назвай «Ліквідацыя», я прачытаў у студзені, цяпер пазнаёміўся з яе аўтарскім перакладам, надрукаваным у «Новом мире». Я быў рашуча за друкаванне яе ў «Полымі», хаця ў мяне і былі некаторыя заўвагі чыста мастацкага, не вельмі істотнага характару...

Аповесць «Сотнікаў» — глыбокі, сумленны, таленавіты твор, і я, безумоўна, за тое, каб ён як мага хутчэй з'явіўся ў «Полымі». Ненармальна гэта і брыдка, што такія творы з'яўляюцца раней у перакладзе...»

Аднак рэдкалегія «Полымя» прыняла пад увагу не думку Я. Брыля, а меркаванні М. Танка, П. Броўкі ды іншых літаратараў. У выніку вердыкт рэдакцыйнага паседжання быў наступны:

«1. Хацелася б, каб Вы, калі можна так сказаць, праяснілі агульны фон аповесці: можа б, хоць у парадку адступленняў ці праз успаміны галоўных герояў паказалі адну-дзве падзеі гераізму партызан, каб мясцовыя паліцаі не адчувалі сябе «гаспадарамі» і г. д.
2. Ці не можна некалькі зняць з герояў фатальную «обреченность», каб яна не ляжала ў іх увесь час на плячах. Добра было б, каб Сотнікаў у Вас хоць бы ў апошні час — пасля допыту і на плошчы — быў больш мужны і цвёрды, — ён жа «касцяк» усёй аповесці. Пажадана, каб Вы некалькі праяснілі яго разважанні ў тым плане, у якім гаварылася на паседжанні рэдкалегіі. (Сотнікаў думае: варты людзі ці не, каб за іх аддавалі жыццё; яго развагі пра адукацыю Рыбака і вышэйшы кодэкс чалавечнасці, пра біблію на матчыным камодзе і г. д.)
3. Можа, дзе больш падкрэсліць, што Рыбак — катэгорыя сацыяльная. Адсюль — ясней стануць вытокі яго здрады.
4. Хацелася, каб Вы абавязкова паказалі больш галоўных віноўнікаў усёй трагедыі — фашысцкіх захопнікаў, а не мясцовую паліцыю: вядома, што паліцаі былі толькі фашысцкімі паслугачамі і г. д.
5. Ці трэба, каб стараста «круціўся між двух агнёў», калі ён ідзе служыць да немцаў па заданні партызан.
6. Не хацелася б, каб людзі «праходзілі міма» Басі — Вашай гераіні, — калі яна хаваецца ад немцаў і паліцыі...»

Напрыканцы ліста, які быў падпісаны па даручэнні рэдкалегіі Паўлам Кавалёвым і Іванам Пташнікавым, значылася недвухсэнсоўная прыпіска: «Просім Вас уважліва паставіцца да заўваг і тыя з іх, якія на Вашу думку слушныя, улічыць пры дапрацоўцы аповесці. Друкаваць яе будзем, як толькі атрымаем ад Вас папраўлены рукапіс». Міжвольна прыгадваецца жарт савецкіх часоў: пісьменнік атрымлівае ганарар не за тое, што напісаў, а за тое, з якой цяжкасцю ён гэта надрукаваў.

## «Вышэйшая школа рэдактуры»

У «Доўгай дарозе дадому» Быкаў прыгадваў, што дапамогу ў «дапрацоўцы» даручылі Барысу Сачанку. Васіль Уладзіміравіч пісаў: «Адразу пасьля паседжаньня рэдкалегіі, яшчэ пакуль не прастылі сьвежыя ўказаньні, мы з Сачанкам пайшлі да яго на кватэру... Цяпер мне Барыс па-сяброўску адкрыў сакрэт рэдактарскіх закідаў да аповесьці — адсутнасць у ёй вобразаў камуністаў. Я сказаў, што наогул пазьбягаю тых вобразаў, бо не валодаю патрэбным талентам. Мабыць, для іх увасабленьня патрэбны талент кшталту Салтыкова-Шчадрына, а ў мяне, калі і ёсьць, дык іншы. Сачанка сказаў на тое, што ён гэта выправіць у адзін момант і, пагартаўшы рукапіс, знайшоў здатнае месца. Во тут і напішам: Сотнікаў — камуніст. А што, апроч таго, і сын камуніста, тое вынікае з кантэксту. Тады я пасумняваўся крыху, але хутка пераканаўся ў рэдактарскай мудрасьці Барыса Іванавіча...» У выніку Сотнікаў зрабіўся камуністам, між тым як у перакладзе аповесці на рускую мову ён быў і застаўся беспартыйным. І хоць Быкаў прыгадваў, што заўваг да твора больш не было, ён, мусіць, з цягам часу забыўся, што заўвагі яшчэ былі і — ажно зашмат.

Да прыкладу, каб, мусіць, дадаць Сотнікаву мужнасці-цвёрдасці і зняць з яго фатальную «обреченность» (на чым і настойвала рэдкалегія «Полымя»), Быкаў вымушаны быў сам крэсліць свой твор. І вось ужо ў пазнейшай рэдакцыі адсутнічаюць цэлыя сказы і фрагменты, у якіх гаворыцца пра Сотнікава: «Ось каб бачыла яго маці, як ён грабецца цяпер у начным полі пад вецер у сваёй аблавухай пілотачцы, з азызлымі ад сцюжы пальцамі і з дыхавічным хрыпам у грудзях. Бедная маці! А можа шчаслівая: яна не ведала і не магла нават сабе ўявіць і дзясятай долі з таго, што стрываў ён за паўгода вайны»; «Твар, рукі, калені занямелі на сцюжы — было зусім блага і ў той жа час неяк бязвольна абыякава да ўсяго і да сябе ў тым ліку»; «І ў галаве яго прамільгнула кароценькае меркаванне-ўспамін аб тым, колькі разоў ён жахаўся ад гэтае самае свае думкі-канца, які дагэтуль усё неяк мінаў яго, адсоўваўся, не праўдзіўся. Але тут ужо не спраўдзіцца ён не мог»; «жыццё спарахніла вайна, з самага яе пачатку ўсё пайшло не так — усё наперакос» і г. д. А там, дзе ў Быкава не падымалася рука, дапамагаў суровы рэдактар. Таму і з'явіліся, да прыкладу, такія скарачэнні, якія датычыліся зноў жа Сотнікава: «Яго, параненага і хворага, найперш пакідала тое, што было найболей патрэбна»; «Хай бы ўжо везлі хутчэй ды канчалі, як там надумалі. Мяркуючы па ўсім, іхняе існаванне на гэтым свеце ўжо не мела вялікага сэнсу». І, вядома, не мог Сотнікаў «нечакана для сябе, у парыве збалелае душэўнай шчы-



З Петрусём Броўкам. 1976.
Фота В. Васільева

**«Сотнікаў» пасля першапублікацыі выклікаў вялікія спрэчкі сярод крытыкаў, прычым палеміка вакол яго працягвалася не адзін год**

расці» ўспомніць Бога, «чаго з ім не здаралася ніколі», — таму гэты сказ рэдактурай быў зноў жа выкраслены. Таксама як не мог Сотнікаў у апошнія гадзіны свайго жыцця прыгадаць Біблію, якая некалі ляжала на маміным камодзе, і «хлапчуком ён часам гартаў яе пажоўклыя з асаблівым, застарэла-кніжным пахам старонкі».

Зрэшты, рэдактарскія купюры датычыліся не толькі Сотнікава. Былі скарочаны, да прыкладу, наступныя разважанні былога франтавіка Васіля Быкава: «На жаль, аказалася, што ў пераняцці вопыту папярэдніх войнаў не толькі сіла, але і слабасць кожнае арміі, бо, мабыць, характар кожнай наступнай вайны складаецца не так з заканамернасцей папярэдняй, як з яе неацэненых у свой час выключэнняў. Пэўная камбінацыя гэтых выключэнняў і фарміруюць перамогі і паражэнні з абодвух бакоў. Шкада, што Сотнікаў (ды і ці толькі Сотнікаў) зразумеў гэта надта для сябе позна, калі ўрокі свае кароценькай франтавой навукі былі ўжо для яго бескарысны, а ўся яго батарэйная сіла стала грудай пакарэжанага ламачча на той шашы пад Слонімам».

Ці вось Рыбак, заўважыўшы ў сцяне старастаў хаты дзіркі ад куль, пытаецца, хто страляў, і стараста адказвае: «А такія, як вы. Гарэлкі трэбавалі», але і гэта надта ўжо недвухсэнсавае параўнанне партызанаў з паліцаямі рэдактура «Полымя» не пакінула незаўважаным: замест слоў «як вы» ўзнікла шматкроп'е. Зразумела, што і паліцай-кат Будзіла ніяк не мог быць у даваенным мінулым раённым начальнікам, які «па вёсках упаўнаважаным гойсаў». Ад рэплікі ж следчага Партнова: «Гэта Саветы нічога не маглі. Хіба што караць» у «Полымі» застаўся толькі першы сказ...

Таксама не была пакінута без увагі яшчэ адна «палымянская» прэтэнзія да Быкава: «Не хацелася б, каб людзі «праходзілі міма» Басі — Вашай гераіні, — калі яна хаваецца ад немцаў і паліцыі...» І таму зніклі падчас першай публікацыі наступныя сказы з аповеду Басі: «Раз нехта мяне ўранку ўбачыў, дзядзенька нейкі. Нічога не сказаў, прайшоў міма. А я так напужалася, чуць да ночы дадрыжэла»; «...парсюкі там былі. Дык я каля іх. Заціснулася ноччу між свіннёй і падсвінкам і сплю. Свіння спакойная была, а падсвінак нягодны — кусаўся»; «А ела... Ну там у карыце нешта выбірала...» І не ў пустым доме хавалася Бася, як у ранейшай рэдакцыі, а яе хавалі — прынамсі так будзе ўжо ў публікацыях. Дый не паліцаі злавілі дзяўчынку (як гэта было першапачаткова ў аўтара), а — немцы, бо надта ўжо хацелася рэдкалегіі «Полымя», каб Быкаў абавязкова паказаў «больш галоўных віноўнікаў усёй трагедыі — фашысцкіх захопнікаў, а не мясцовую паліцыю».

І што ўжо казаць пра наступныя разважанні Сотнікава за некалькі хвілін да смерці: «Сотнікаву было пакутліва-сорамна ад свайго па сутнасці наіўнага фантазёрства — сам згубіўшы надзею вырвацца ад смерці, ён надумаўся ратаваць іншых. Але тыя, што толькі і прагнуць, каб выжыць, ці варты яны хоць бы аднаго дабраахвотна аддадзенага за іх жыцця? Колькі ўжо іх, чалавечых жыццяў, з часоў Ісуса Хрыста было пакладзена на ахвярны алтар чалавецтва і ці шмат чаму навучылі яны, гэтыя самыя высакародныя ахвяраванні? Як і тысячы год назад людзі клапоцяцца найбольш пра сябе асабіста хоць бы і за кошт такіх вось ідэалістаў, як, не раўнуючы, і ён, Сотнікаў». Нават папраўлены не толькі аўтарам, але і рэдактарам, гэты фрагмент усё роўна быў выкраслены падчас рэдагавання ў «Полымі». Між тым як у «Новом мире» ён быў пакінуты, разам з імем Хрыста...

Як тут не ўзгадаць адзін са «знакаў прыпынку» Уладзіміра Някляева:

«Сказ з рукапісу Субоціна:

«Отчетливо помню сейчас тот испуг, который я пережил».

І праўка Маршака:

«Я до сих пор помню, как я испугался».

Вышэйшая школа рэдактуры».

Наогул кажучы, у «Ліквідацыі» было зроблена каля ста купюр менавіта цэнзурнага характару. І выйшла скалечаная аповесць зноў жа не пад сваёй назвай — «Сотнікаў». У такім выглядзе друкуецца і дасюль.

## Адкрытае пытанне

Ужо значна пазней пасля першапублікацыі літаратар Грыгорый Свірскі (той самы Свірскі, які ў другой палове 1960-х гг. выступіў супраць афіцыйнага антысемітызму і цэнзуры ў друку, у выніку быў выключаны з КПСС і СП СССР і ў 1972 г. быў вымушаны эміграваць з Савецкага Саюза) пісаў, што на несупынную траўлю Быкаў адказаў аповесцю «Сотнікаў», «пожалуй, самым глубоким произведением, в котором он прямо выступает против сталинско-кагебешной «черно-белой концепции» и в литературе и в жизни».

Адразу ж пасля публікацыі Чынгіз Айтматаў пісаў Быкаву: «Опасаюсь я немного за «Сотникова». Критика наша стала нетерпимой даже к малейшим проявлениям самостоятельного мышления. А в «Сотникове» будет о чем спорить. Но как бы то ни было, я считаю, что диалектику предательства ты вскрыл как никто другой. Это мастерство.

Проблема предательства одно из вечных пятен на совести людской. Об этом искусство всегда должно думать».

А Валянцін Распуцін прызнаваўся ў лісце да Быкава: «Я читал, очевидно, все, что выходило у Вас в свет, и почти все люблю, а из последних вещей — особенно «Сотникова». Сцену казни оттуда я перечитывал много раз, чтобы понять, как это делается, и ничего, разумеется, не понял: слишком просто и сильно, эта простота не поддается усвоению». (Дарэчы будзе заўважыць, што фінальная сцэна пакарання ў публікацыях у «Новом мире» і «Полымя» таксама адрозніваецца.)

«Сотнікаў» пасля першапублікацыі выклікаў вялікія спрэчкі сярод крытыкаў, прычым палеміка вакол яго працягвалася не адзін год, што, зрэшты, не перашкодзіла твору стаць хрэстаматыйным. Аднак сёння больш істотна іншае: цяпер, пасля таго, як «Ліквідацыя» надрукаваная менавіта ў аўтарскай, дацэнзурнай рэдакцыі, ці стане яна так бы мовіць «эталоннай» — таксама як «эталоннай» больш сарака гадоў была падцэнзурная «палымянская» публікацыя? Ці будзе Быкаў — і яго «Мёртвым не баліць», і «Ліквідацыя» — у далейшым друкавацца менавіта ў першапачатковым, аўтарскім выглядзе? Ці па-ранейшаму Быкаў будзе выдавацца-перавыдавацца ў тым выглядзе, як яго некалі, яшчэ за савецкім часам, «прачытала» цэнзура? Пытанне застаецца адкрытым.

***P.S.*** *Замовіць непадцэнзурныя рэдакцыі кніг «Мёртвым не баліць» і «Ліквідацыя» можна на сайце: www.labadzenka.by*

# Чалавек-повязь

Наталля ГАРДЗІЕНКА

**Сёлета спаўняецца 105 год ад нараджэння Яніны Каханоўскай (1909–2005). Яе голас гучаў на радыё «Свабода» ў розных перадачах, пра яе пісаў у «Імёнах Свабоды» Уладзімір Арлоў.**



Яніна Каханоўская

Людзі, якія яе ведалі асабіста, згадвалі, як любіла паўтараць: «Я не вялікі чалавек, я проста доўга жыву». І смяялася ціхім і добрым смехам.

Гэта і праўда, і не. Спадарыня Яніна — пляменніца братоў Луцкевічаў — як бы лучыла сённяшніх беларусаў з «нашаніўцамі» пачатку XX стагоддзя. Магчыма, людзі згадвалі правіла поціску трэцяй далоні і дакрануўшыся да гэтае жанчыны ўсведамлялі, што як бы дакранаюцца да Максіма Багдановіча, які трымаў на руках маленькую Яніну.

Але повязь была не толькі сімвалічная. Каханоўская лучыла людзей і фізічна. Так адбылося і з Надзеяй Абрамавай (1907–1979), адным са стваральнікаў і кіраўнікоў Саюзу Беларускай Моладзі. У часе выезду нацыянальных структураў з Беларусі ўлетку 1944 г., фактычна кінутая БЦР, Абрамава мусіла сама ратаваць блізкіх. Ад таго мела крыўду на Раду, і нават разарвала кантакты амаль з усімі беларусамі. Пасля сканчэння вайны Надзея Абрамава жыла ў Мюнхене, працавала ў Інстытуце вывучэння СССР, дзе займалася даследаваннем праблемаў рэлігіі і атэізму ў Савецкім Саюзе, выдавала адпаведны часопіс.

**Дзякуючы Яніне Каханоўскай сённяшнія гісторыкі не маюць праблемаў з пісаннем біяграмы Надзеі Абрамавай**

Менавіта ад Яніны Каханоўскай беларусы даведваліся пра жыццё Абрамавай у Мюнхене. Каханоўская засталася ці не адзінай беларускай, з кім былая кіраўнічка СБМ падтрымоўвала пастаянныя кантакты. Спадарыня Яніна і паведаміла беларусам Нью-Ёрку падрабязнасці пра смерць Абрамавай. У 1979 г. яна пісала да Янкі Запрудніка і Антона Адамовіча:



Яніна Каханоўская і Лявон Юрэвіч (на другім плане Францішак Бартуль)

«5.4.1979 г.

Даражэнькія Янка і Сп. Адамовіч!

Прывітаньні зь Нямеччыны, гэткай чыстай у параўнаньні зь Нью Ёркам, што аж вочы баляць! Пару дзён накропваў дожджык і было халаднавата, але сёньня адчуваецца вясна, сонейка, кветкі.

... У сераду хадзіла да айца Карла, які пахаваў Абрамаву, каб даведацца аб абставінах ейнае сьмерці. Ён расказаў мне ўсё падрабязна, але пісаць аб гэтым было б задоўга, скажу толькі, што памерла на рака, які пачаўся ў кішках, а тады перакінуўся на печань і ўвесь арганізм. Спачатку ад яе скрывалі хваробу, але пазьней, ужо па апэрацыі, галоўны лекар сказаў ёй, што надзеі німа, што ейныя дні палічаныя. Гэта быў для яе шок, але пасьля яна як чалавек вельмі рэлігійны супакоілася. Памерла спакойна. На пахавінах былі Касмовічы. Яны прасілі аддаць ім паперы й кніжкі, што датычыліся Беларусі, але нічога такога а. Карл не знайшоў. Сёньня пайду да яго йзноў, прасіла аддаць мне ейны альбом са здымкамі. Там шмат цікавых для мяне фотаграфіяў зь Менску, зь дзён нашае маладосьці, а для іх ён ня мае ніякае вартасьці.

Шчыра адданая Я. К.»



Надзея Абрамава

Яніна Каханоўская сапраўды атрымала той альбом са здымкамі памерлай кіраўнічкі СБМ і пазней, разам з лістамі апошняй, перадала ў Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Гэтыя матэрыялы былі апублікаваныя ў кнізе Лявона Юрэвіча «Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу Беларускай Моладзі» (Мінск, 2001). Менавіта з нагоды працы над ёй даследнік у 2000 годзе адмыслова звярнуўся да Яніны Каханоўскай з просьбай распавесці пра мюнхенскую беларуску. І як за дваццаць гадоў да таго, з чарговага еўрапейскага падарожжа быў напісаны наступны ліст:

«Вельмі паважаны й дарагі Лявон!

Мне прыкра, што асабіста не магу даць вестак аб Абрамавай, але чакайце ліста ад Галінкі з фатагр. помніка. Абяцала зрабіць гэта як найхутчэй. Рэшту «візэрункаў» прывязу 23-га septembra.

Маю тут цікавыя сустрэчы, наведала з Лукашуком помнік Скарыны, была на Альшанах, дзе Лукашук паставіў вазоны на месцы адпачынку старых Беларусаў.

У 80-м годзе, калі я наведала Мюнхен, я ўжо не застала Абрамаву ў жывых. Яна памерла месяц перад гэтым. Было прыкра й сумна. Адразу ж пайшла да сьвятара царквы, пры якой яна жыла, і забрала ў яго ейныя альбомы з фота, якія ўжо хацелі спаліць. Ніякіх архіваў яна не пакінула. Гэта пацьвердзілі й Касмовічы, якія таксама іх шукалі. Сьвятар мне сказаў, што з царкоўным хорам, у якім яна сьпявала, наведаў паміраючую ў шпіталі. Яна адыйшла спакойна, усьміхаючыся, пад сьпеў хору.

Была заўсёды вельмі набожнай, памятаю гэта яшчэ зь менскіх часоў. Замужам не была ніколі. Дачку адаптавала пры немцах. Зь немцамі супрацоўнічала так, як і ўсе мы, таму, што яны змагаліся з бальшавікамі, якіх яна шчыра ненавідзела.

Некалі на радыё працаўнікі бел. сэкцыі Сеньковскі і Цьвірка, ды шмат хто зь іншых ганілі Абрамаву, што яна пакінула безабаронную моладзь, а сама схавалася недзе ў манастыры. Мне яна скаржылася на Цэнтральную Раду і Астроўскага, што яны яе не папярэдзілі, не дапамаглі парадай. Яна да іх зьвярталася й ня мела адказу. Пазьней яна і яе бацька не хацелі нічога супольнага мець зь Беларусамі і нават не пазнавалі знаёмых.

Пішу коратка, але хачу сказаць, што Вас тут ведаюць, цэняць, паважаюць. Сярод іх і я. Заставайцеся такім, як Вы ёсьць, не разьменьвайцеся на «мышыную мітусьню», якую часта прымаюць за вялікую палітычную працу. І заставайцеся здаровы. Прывітаньні з Прагі.

Шчыра адданая Я. Каханоўская

Прага, 11/VIII, 2000».

Так сталася, што дзякуючы менавіта Яніне Каханоўскай сённяшнія гісторыкі не маюць праблемаў з пісаннем біяграмы Надзеі Абрамавай. Жыццялюбная, усмешлівая спадарыня Яніна стала своеасаблівым лучнікам паміж кіраўнічкай СБМ і суайчыннікамі. Гэткую ж лучанасць Каханоўская мела калісьці з Наталляй Арсенневай, з Юльянай Дубейкаўскай...

І нават смерць, якой Яніна Каханоўская не баялася, не перарывае тую повязь часоў і асобаў і сёння...



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 884.

Падпісана да друку 04.07.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.